Праца пра С. Копу → 5



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960    NR INDEKSU 366714

„Бацькаўшчына" → 8



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 13 (2915) Год LVII | Беласток, 25 сакавіка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# На радзіме прэзідэнта БНР

Сяргей ЧЫГРЫН

**Вёска Дабрасельцы, дзе нарадзіўся беларускі палітычны дзеяч, другі прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Захарка (1877-1943) — глыбінка Зэльвенскага раёна, Гродзенскай вобласці. Ад райцэнтра да вёскі больш за 20 кіламетраў.**



У канцы XIX стагоддзя вёска і маёнтак былі ўласнасцю Ігната Шырмата, які меў 799 дзесяцін зямлі. На пачатку XX стагоддзя ў Дабрасельцах жыло каля 400 чалавек. Але з кожным годам вяскоўцаў станавілася ўсё менш і менш: у 1971 г. іх жыло 288, у 2003 г. — 161 жыхар, а цяпер і таго менш. Паміраюць людзі, асабліва мужыкі.

У Дабрасельцы, калі ехаць з Зэльвы і Міжэрычаў, можна дабрацца з двух бакоў вёскі. Бо сама вёска — гэта адна доўгая заасфальтаваная вуліца. Праўда, некалькі дамоў стаяць крыху ўбаку ад галоўнай вясковай вуліцы. Мне патрапіць у Дабрасельцы давялося з боку праваслаўнай царквы св. Антонія, пабудаванай у 1893 годзе. Але на той час у царкве нікога не было, таму прыйшлося ехаць да вясковай крамы — у другі бок вёскі, каб пагутарыць з вяскоўцамі.

У краме ў Дабрасельцах было людна, вяскоўцы куплялі тавары, вялі розныя гутаркі пра сваё жыццё-быццё. Пытаюся ў вяскоўцаў: „А ці ёсць у вашай вёсцы Захаркі?". „О-о-о! — усміхнуліся жанчыны. — У нас палова вёскі маюць прозвішча Захарка. А вам каторы патрэбен?".

— Мне патрэбны сваякі Васіля Захаркі.

— А каторага Васіля?

— Таго, што жыў за мяжой у Чэхіі.

— А! Гэта трэба вам звярнуцца да Веры Міхальчык, яна жыве ў хаце пад нумарам 15. Кабета шмат ведае і памятае.

Жанчыны выйшлі з крамы і паказалі, дзе знаходзіцца хата Веры Іванаўны Міхальчык. Я паціху пайшоў па цэнтральнай вясковай вуліцы, потым з невялікага грудочка збочыў да хаты спадарыні Міхальчык. Мяне сустрэла невялікага росту бабуля, але яшчэ жвавая, зацікаўленая і гаваркая. Павітаўся і сказаў жанчыне мэту свайго візіту ў Дабрасельцы. Вера Іванаўна ўзрадавалася, запрасіла ў адзін з пакояў хаты і сказала, што ведае пра Васіля Іванавіча Захарку. „Мама мая Васілю Захарку была родная цётка", — сказала Вера Іванаўна. І адразу задала пытанне: „А ці праўда, што Васілю Захарку ў Слоніме паставілі бюст. І чаму гэта ў Слоніме, а не ў Зэльве?".

— У Слоніме, Вера Іванаўна, ёсць толькі бюсты Леніну. А Васілю Захарку няма. Але прыйдзе час і мы абавязкова паставім помнікі Васілю Захарку ў Зэльве, у Мінску і ў Дабрасельцах. А пакуль толькі адзін помнік яму ёсць на магіле на Альшанскіх могілках у Празе. А ці бачылі Вы Васіля Захарку?

— Пры маёй памяці ён у Дабрасельцы прыязджаў два разы, але я яго не бачыла. Адзін раз, калі ён прыязджаў, я хварэла. Але я яму пісала лісты, дарослыя дыктавалі, а я пісала. Я вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, пісаць і чытаць умела. А вось жонку яго Пелагею бачыла некалькі разоў, яна родам з суседняй вёскі Бязводна.

— А ці ведаеце Вы кім быў Васіль Захарка:

— Здаецца, нейкім паслом.

— Так, 2 чэрвеня 1920 года ён быў прызначаны старшынёй Надзвычайнай Беларускай Дыпламатычнай Місіі БНР. Васіль Захарка накіроўваўся ў Маскву па запрашэнні міністра замежных спраў РСФСР Георгія Чычэрына. Там ён выконваў абавязкі старшыні місіі БНР у Маскве. Захарка намагаўся прызнання незалежнасці Беларусі перад савецкімі ўладамі, арганізацыі войска, вызвалення беларускіх палітвязняў ва Усходняй Беларусі і матэрыяльнай дапамогі. А з 1928 г. да смерці ён узначальваў Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта значыць быў яе прэзідэнтам.

— Вось гэта я ад Вас чую ўпершыню. Няўжо ён такі знакаміты беларус?

— Вельмі знакаміты Ваш сваяк, Вера Іванаўна. А дзе яго была хата, дзе ён жыў?

— Побач з нашай. Але хаты той даўно няма, толькі месца засталося, дзе яна стаяла.

Вера Іванаўна з суседкай паказала мне месца, дзе стаяла хата Захаркі. Маладыя гады будучага прэзідэнта ў Дабрасельцах былі няпростыя. На шаснаццатым годзе жыцця ён застаўся сіратою, маючы пад сваёй апекай сястру і двух братоў. Але Васіль не падаў духам: улетку ён вёў гаспадарку, а ўзімку вучыўся. А ў 1898 годзе быў прызваны на вайсковую службу...

— А ці раней у Вас былі журналісты?

— Гадоў 12-13 таму я мела сустрэчу з беларускім журналістамі з Беластока ці нават з Прагі, не памятаю. Тады яшчэ жыў мой муж Сяргей Бязносік.

— Вера Іванаўна, а ці ёсць у Вас якія-небудзь фотаздымкі Васіля і Пелагеі Захаркаў? — пытаюся ў спадарыні Міхальчык.

— У мяне няма, але мабыць ёсць у маёй малодшай сястры Валі Быкавай.

Мы пайшлі паціху да сястры Веры Міхальчык — Валянціны. Яна адна жыве ў вялікім цагляным доме.

— Спадарыня Валянціна, а ці ёсць у Вас здымкі Васіля Захаркі?

— Былі два, але забрала дачка. Яна жыве ў Маладзечанскім раёне.

— А што гэта былі за здымкі?

— На адным — Васіль Захарка з жонкай Пелагеяй. Ён сядзіць, а яна стаіць побач з ім, паклаўшы яму руку на плячо. Здаецца, здымак быў зроблены ў 1920-х гадах. І на другім здымку — Васіль Захарка ў Коўне.

— Я ведаю гэтыя здымкі. Яны друкаваліся ў часопісе „Спадчына" ў 1994 годзе...

Пакуль мы гутарылі на вуліцы ў Дабрасельцах, да нас падыходзілі іншыя людзі — і сваякі Васіля Захаркі, і проста вяскоўцы, якія мелі прозвішча Захарка. Яны прасілі напісаць пра іх, пра тое, што многія з жанчын па 20-30 гадоў адпрацавалі даяркамі, свінаркамі ў калгасе, а з пенсіяй іх дзяржава падманвае. Напісаць пра тое, як працуе ў Дабрасельцах магазін, як лечаць старых людзей у бальніцах і г.д. Пытанняў і праблем у вяскоўцаў шмат...

Калі я развітваўся з Захаркамі з Дабрасельцаў, спадарыні Вера і Валянціна сказалі, што, магчыма, яны не дажывуць да таго часу, калі іх сваяку Васілю Захарку паставяць у Зэльве помнік. Я запэўніў іх, што дажывуць, і што падчас адкрыцця помніка, яны выступяць са шчырай прамовай. Вяскоўцы падзякавалі за памяць і запрасілі часцей бываць на радзіме прэзідэнта БНР Васіля Захаркі, якому 1 красавіка спаўняецца 135 гадоў з дня нараджэння.




## ЗАПРАШАЕМ
**на святкаванні ў Беластоку**

**23.03.2012**

**„Склеп з культурай" Аб'яднання АБ-БА ў Беластоку, вул. Чэнстахоўская, 6а**

17.00 Дыскусійны клуб АБ-БЫ „Пагаворым пра паэзію Віктара Шведа"

**У рамках сустрэчы:**

гутарка з Віктарам Шведам, спектакль на вершы Віктара Шведа „Вучыся. Вучыся? Вучыся!" у выкананні ўдзельнікаў тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр", фільм Міколы Ваўранюка пра Віктара Шведа, паказ здымкаў Вальдэмара Квяткоўскага

**24.03.2012**

18.00 **Тэатральная акадэмія ў Беластоку, вул. Сянкевіча, 14.** — „Цацачная крама" — спектакль у выкананні ўдзельнікаў тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр"

**25.03.2012**

10.00 **Царква Агія Сафія ў Беластоку, вул. Травяста, 5** — Св. Літургія, пасля Літургіі — малебен за беларускі народ

14.00 **Ваяводскі асяродак анімацыі культуры „Сподкі" па вул. Святога Роха, 14.**
У праграме м.інш: дакументальнае кіно Міколы Ваўранюка, а таксама канцэрт беларускіх песень у выкананні дзяцей і моладзі.

**Запрашаюць:**
АБ-БА, Радыё Рацыя,„Ніва", Беларускі саюз





# Адказнасць за жыццё

*Расстрэл. Гучыць жудасна і нечакана. Хоць усе ведалі, што так можа здарыцца, а хутчэй за ўсё так і будзе, усё адно гэтая навіна прагучала нечакана.*

*Які можа быць расстрэл!? У нас што тут, вайна пачалася, ворагі, іншаземныя салдаты, марадзёры, здраднікі? Якая неабходнасць забіваць чалавека? Можа трэба імкліва адступаць нашым войскам у тыл, а варожага дыверсанта няма куды дзець, як толькі паставіць да сцяны, ці што? Ці якая яшчэ такая прычына ёсць, што чалавека трэба абавязкова забіць!?*

*На гэтае пытанне знайсці адказу не магу. Хоць трэба яго шукаць нават зараз, калі ўжо позна. Калі людзей ужо няма ў жывых. І не пра тое гаворка, вінаватыя яны ці не. Ці цалкам даказаная іх віна, ці бок абвінавачання чаго не дагледзеў. Ці яшчэ што горш. Зусім не пра тое размова, а толькі пра тое, навошта гэта рабіць.*

*Зрэшты, гэта не першыя расстраляныя ў Беларусі людзі. Пасля таго, як на рэферэндуме 1996 года беларускае грамадства прагаласавала за смяротную кару, за тое, каб дзяржава мела права забіваць людзей, дзяржава гэтае права рэалізоўвае. Рэалізоўвае ад імя народа, які надзяліў такімі паўнамоцтвамі дзяржаўную сістэму. І самае крыўднае, што яна мае права гэта рабіць ад імя народа, бо народ узяў на рэферэндуме бюлетэні і паставіў галачку ў графе „за" — за смяротнае пакаранне.*

*Людзі выбралі смерць. Зразумела, што смерць для некага. Не для сябе ж, а ўсяго толькі для бліжняга. Але ў жыцця своеасаблівае пачуццё гумару, бо многія сваякі расстраляных, калі галасавалі за смерць, не думалі, што гэта можа тычыцца непасрэдна іх і іх блізкіх. Не задумаліся, што бяда можа пастукаць ва ўсякія дзверы.*

*А большасць з тых, хто тады галасаваў на рэферэндуме, не захацелі зразумець, а мо ўсё разумелі, але не захацелі прызнаць, што кожны грамадзянін нясе адказнасць за стан злачынства ў грамадстве. Не захацелі ўзяць гэтую адказнасць на сябе. Спіхнулі на некага. На дзяржаву. Няхай, маўляў, нехта там разбіраецца і прымае рашэнні. Хоць добра ведалі, што няма на свеце дзяржавы, якая можа гарантаваць, што ні разу не памыліцца яе судовая і следчая сістэма. І добра ведалі факты, калі такія трагічныя памылкі рабіліся ў мінулым. А калі і не ведалі, то значыць не хацелі ведаць. Уцякалі ад праўды. Ды як сказаў мудрэц: „Няведанне не ёсць апраўданне. Усе няведальнікі ў пекла пойдуць". І нават тыя, хто ў замагільнае жыццё прынцыпова не веруць.*

*Выбар нашага народа тады паў на смерць. Ці не за гэты выбар увесь народ зараз нясе пакуты і адказнасць? Бо можна памыліцца ў выбары дэпутата, кіраўніка краіны, выбары вектара развіцця, у выбары з кім сябраваць і з кім інтэгравацца. Можна памыліцца нават у выбары палітычнай сістэмы. Гэта не так важна. Гэта ўсяго толькі памылка, якую можна выправіць пры вялікім жаданні большасці грамадства. Але расстралянага чалавека да жыцця ўжо не вернеш. І таму выбраць смерць, гэта не памылка. Гэта погляд на сусвет, прага помсты і нават стан характару. Гэта духоўны стан, калі слова „духоўны" ўвогуле можна прымяняць да такога стану. Гэта жудасны негатыў у чалавечых душах. Чарната і пустата.*

*І калі пасля 1996 года ёсць хоць адзін нявінна забіты дзяржаўнай машынай чалавек, то кожны грамадзянін гэтай краіны нясе адказнасць за гэтае загубленае жыццё. І той хто агітаваў на рэферэндуме за кару смерці, і той, хто галасаваў за яе. І той хто не прыйшоў галасаваць, тым самым абыякава паставіўшыся да пытання жыцця і смерці. І нават той, хто прагаласаваў супраць, бо не змог адстаяць сваю праўду. Пабаяўся, ці яшчэ горш — паленаваўся.*

*І калі мы наракаем, што мы адзіная краіна ў Еўропе якая не з Еўропай, ці мы адзіныя ў Еўропе, каму трэба візы ў Еўропу, ці мы адзіныя ў Еўропе, хто жыве не так, як у Еўропе, то трэба найперш усвядоміць, што мы — адзіная ў Еўропе краіна, якая практыкуе смяротнае пакаранне. Мы адзіныя, з усёй супольнасці еўрапейскіх народаў паставілі галачку „за" ў графе за смяротнае пакаранне.*

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пару слоў аб распанелым хамстве

*Мей я ўжо даць перадыхнуць Аляксандру Лукашэнку. Прынамсі на нейкі час. Таму ў сённяшнім фельетоне запланаваў я крануць тэму распаўсюджанага хамства. Толькі што ў святле апошніх вестак даходзячых з Беларусі аб жорсткім расстрэле Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, пакараных смерцю быццам бы за замах у мінскім метро ў 2011 годзе, асобы Аляксандра Лукашэнкі не абмінеш. Ды спачатку пару слоў аб шакіруючых паводзінах шафёра транспартнай фірмы „Ваяжор". Якраз я быў відавочцам яго хамства. Тое, што гнаў ён як апантаны, не зважаючы на правілы дарожнага руху, гэта яшчэ нічога. Тое, што прытармазіў перад блізкім прыпынкам так гвалтоўна і без следу літасці для пасажыраў, прасіскаючыхся да выхаду, гэта таксама нічога. Справа стала сур'ёзнай, калі на пратэст аднаго з паабіваных людзей, дадам, што выказаны памяркоўна і вельмі ветліва, той кіроўца, замест перапрасіць ахвяру, абазваў яе п'янай свалаччу. Бо хам, шаноўныя чытачы, ніколі не прызнаецца да сваёй віны! Скажу яшчэ, што прыніжаны чалавек выйшаў з бусіка без слова. Словам не адазваўся таксама ніводзін з апошніх пасажыраў. Шафёр-хам затое пасміхаўся з пераможнай ухмылкай...*

*Пісанае малой, ці вялікай літарай хамства, якое з'яўляецца праявай цывілізацыйнага выродства, захапіла ўжо цалкам публічную прастору. Даючы згоду на такое, невядома калі мы ўсе станем хамамі. І нічога да гэтага не мае ні нацыянальнасць, ні грамадскае паходжанне хама. Хамам застанецца ў нашай памяці Дзяржынскі, хоць быў з яго польска-літоўскі панок. Хамам быў Ленін родам з расійскай інтэлігенцыі, стваральнік бальшавізму, і такім самым хамам быў Гітлер. Нямала хамаў засела ў польскім парламенце. Хамам з'яўляецца вучань беластоцкай гімназіі, які на заўвагу настаўніцы, што паводзіць сябе загучна, даў ёй параду, каб „трахалася са штучным хрэнам". Хамам з'яўляецца яе дырэктар, які гэтую справу праігнараваў. Хамамі з'яўляюцца бацькі малалетка, што настаўніцу абсмяялі. Хам не зважае на ўражлівасць іншых. Няма чаго чакаць ад яго грамадзянскай адвагі, якая лучыцца з адданасцю, альтруізмам і чалавечым салідарызмам. Ён няздольны ані да рэфлексіі, ані да самааналізу. Ані тым больш да эмпатыі — суперажывання. Па трупах рэалізуе свае часовыя, кампульсіўныя — прымусовыя мэты. Таму з такой лёгкасцю хапаецца за ўладу. Любую ўладу. Хопіць, што рассядзецца на табурэтцы туалетнай бабы, апранецца ў форму паліцыянта, разваліцца на крэсле шафёра аўтобуса, у парце вучня, які ахоўваецца імунітэтам непаўналецця, дырэктара школы, дэпутата, суддзі, прэзідэнта — адразу дае адчуць іншым сваю ўладу. А чым большую ўзурпуе ён уладу, тым большым становіцца хамулай.*

*Канавалава і Кавалёва палічылі віноўнымі ў масавым забойстве ў мінскім метро. І крадком, зараз пасля вынясення судовага рашэння, забілі іх стрэлам у патыліцу. Гэтага першага бедалагу абвінавацілі яшчэ ў віне (недаказанай!) — у бомбакіданні ў час пленэрных канцэртаў у Мінску ў 2008 і ў 2005 г. у Віцебску. У 2005 г. Канавалаву было 17 гадоў. Аж цяжка паверыць, каб такі недарostак сканструяваў прафесійную бомбу. А калі нават, то ў імя чаго мей бы яе кідаць? Бо ж не для нейкай ідэі. Ці мо ён псіхапат? Ды ці абследавалі яго эксперты-псіхіятры? Прыгадаю, што шмат беларускіх юрыстаў адмаўляла доказы, сабраныя пракуратурай у гэтай справе. Таксама прымененыя следчыя метады выклікалі ў іх жах. Нягледзячы на катаванні Канавалаў ані не запярэчыў, ані не пацвердзіў свой удзел у мінскай трагедыі. Ані таксама ў папярэдніх забойствах. Што не значыць, што быў у чым-небудзь вінаватым. Некаторыя людзі рашаюць на геройскае маўчанне, хоць вісіць над імі катаўскае абвінавачанне. Робяць гэтак з адчаю, з глыбока перажытага грамадзянскага прыніжэння. Прэзідэнт Беларусі не прымяніў у адносінах да гэтых няшчасных права на памілаванне. Канавалаў запёрся і не хацеў прасіць яго ў Лукашэнкі. Можа таму, што было б гэта раўназначным прызнанню сваёй віноўнасці. А ад яе адмовіўся сваім годным маўчаннем. Як той аплёваны шафёрам „Ваяжора" пасажыр. Адно што хамства маўчаннем не выкаранім. Не маўчаннем...*

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Узгодніць і выказаць сваё меркаванне



*Каля чатырох гадзін 13 сакавіка працягвалася ў калоннай зале Сейма публічнае слуханне грамадскага законапраекта аб унясенні змен у закон аб ахове прыроды. Ініцыятары змен сабралі 250 тысяч подпісаў (патрабуецца 100 тысяч) пасля таго, як падляшскія самаўрады не далі сваёй згоды не павелічэнне Белавежскага нацыянальнага парку. Хоць заяву падалі ў Сейм у лістападзе 2010 года, ніжэйшая палата парламента рашыла заняцца ёй толькі ў гэтым тэрміне паўнамоцтваў. Сёлета ў студзені спалучаныя сеймавыя камісіі тэрытарыяльнага самаўрада і рэгіянальнай палітыкі ды камісіі аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і сельскай гаспадаркі мелі стварыць надзвычайную камісію для разгляду грамадскага праекта аб змене закону. Аднак раней абедзве камісіі атрымалі заяву падляшскага дэпутата Яўгена Чыквіна аб публічных слуханнях у гэтай справе, значыць, на тое, каб даць магчымасць выказацца на гэтых не толькі экологам (якія выказваюцца за пашырэнне Парку), але і самаўрадаўцам. І гэта адбылося. Да гэтай пары закон аб ахове прыроды гаварыў, што стварэнне парку або змена яго межаў патрабуе... пагадненняў з самаўрадамі. У грамадскім праекце апынуўся запіс: „Стварэнне нацыянальнага парку, змена яго межаў або яго ліквідацыя можа наступіць пасля (...) кансультацыі праекта распараджэння адпаведнымі мясцовымі заканадаўчымі органамі самакіравання, Дзяржаўнай радай аховы прыроды ды зацікаўленымі няўрадавымі арганізацыямі". У абгрунтаванні аўтары грамадскага праекта напісалі між.: „Хочам, каб нацыянальныя паркі перасталі залежаць ад палітычнага „капрызу" на розных узроўнях. Хочам, каб нацыянальныя паркі належалі народу, значыць, нам усім і для нас паспяхова захоўвалі прыроду".*

*Аб аргументацыі пушчанскіх падляшскіх самаўрадаў і аб пазіцыі эколагаў пісалі мы неаднойчы. У атмасферы, якой спадарожнічалі апладысменты або гудзенне, вярнуліся яны і на сеймавую калонную залу 13 сакавіка, дзе сабраліся самаўрадаўцы не толькі з Падляшскага, але і Вармінска-Мазурскага ды Падкарпацкага ваяводстваў. Мяне ў час гэтай дэбаты найбольш зацікавіла выступленне аднаго са стваральнікаў польскай самаўрадавай рэформы праф. Міхала Кулешы. На яго думку, шлях выбраны заяўнікамі змены закону (значыць, замена слова uzgodnienie на zaopiniowanie) не з'яўляецца адпаведным. Як сказаў, самаўрады павінны ведаць перад узнікненнем ці пашырэннем нацыянальнага парку „сумленную ацэнку ўсяго мерапрыемства", у тым ліку ведаць пра кошты інфраструктуры і карысці, якія гэта прынясе. Заклікаў:*

*— Не можа быць так, што пры дапамозе адной малой прыладкі хочам вызначыць каштоўнасці грамадскага жыцця. Працэдура, якую ў гэты момант нам пакязваецца, з'яўляецца крыніцай канфліктаў. Ёсць механізмы, каб дайсці да згоды: кансультацыйныя і інфармацыйныя. Тут не бачым гэтага нават следу.*

*Пры нагодзе прыгадаў, што ў Польшчы ёсць 1 200 гмін ахопленых разнароднымі формамі ахоўных тэрыторый:*

*— Гэтыя гміны — палова Польшчы, і яны пазбаўлены нармальнага функцыянавання.*

*Адзначыў:*

*— У праекце закону тэма патрактаваная павярхоўна, на ўласніцкім грунце.*

*Дадаў таксама:*

*— Сёння самаўрады становяцца штораз больш сацыяльнымі, бяручымі кампенсацыйныя ахвяраванні. Падкідваецца ім нейкія грашакі, каб змаглі неяк выжыць. Неабходнай з'яўляецца здольнасць самаўрадаў распараджацца сваімі справамі. Гэты закон, у такой версіі, не павінен быць прыняты.*

*І так, дарэчы. Мабыць можа сведчыць аб гэтым факт (не рызыкну адказу, аб чым), што тымі публічнымі слуханнямі не зацікавілася агульнапольскае публічнае тэлебачанне. Прамую трансляцыю з яе ходу я глядзеў у тэлебачанні „Трвам" айца Тадэвуша Рыдзыка.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Эва СЦЕПАНЮК

# Фатальны масаж для добрых людзей!


http://zory.olx.pl

— У мяне адзін ратунак перад агентамі, — прызнаецца Жорж С. — Калі бачу іх на сваім панадворку, адразу ўцякаю за клуню...

Прызнанне старога кавалера прагучала як абарончы агульнабеларускі лозунг: *Хавайся ў бульбу!* Жорж С. адразу пaясніў чаму хаваецца, калі бачыць прадаўцоў цудадзейных прылад, якія брутальна пруцца ў дом і абвяшчаюць сябе нейкімі агентамі.

— Бо яны так угавораць чалавека, што рука сама падпіша на сябе смяротнае пакаранне! А пасля, ніякага адвароту. Ідзі і гінь, дурны!

У справе нячэснай *пеленгняркі,* як кажуць у Н., пра масажыстку-ашуканку, Жорж С., ведае адно:

— *Страхота з Ломжы!*

Сёння восьмае сакавіка, міжнародны дзень жанчын, таму мой субяседнік дадае, што любіць усіх дзяўчат і жанчын.

* * *

— Мне таксама хацелі намовіць, праз тэлефон, — апавядае пенсіянерка Соня С., — але я адразу рашуча адмовілася. Сказала: у мяне ўсё *экстра.* Каб не трацілі свайго цэннага часу.

Соня С. перайшла дзве складаныя аперацыі і масаж падыходзіў тут як цыбуліна да сала. У шпіталі масаваў маладзенькі тэрапеўт. Адразу лягчэй рабілася, іншыя думкі ў галаву прыходзілі. О-го! Масаж, добрая рэч — што тут казаць...

— Я здзівілася, што ў іх агенцтве, дзесьці пад Гданьскам, ведаюць пра мае хваробы, — кажа бабуля, — а яны мелі на месцы „сваю” інфарматарку. Бабуля называе актывістку свае парафіяльнае рады, праслаўленую інтрыганку і плёткарку.

— І тая ім гаварыла дзе хто хварэў, хто адзінокі і без памяці, хто паралізаваны...

Бо першая пад нож, значыць, пад масаж, пайшла васьмідзесяціпяцігадовая Наталля Д., паралізаваная на адзін бок пенсіянерка пасля інсульту.

— Прыехала да мяне *пеленгнярка* і давай масаваць. А хто ты будзеш, чыя? — спытала яшчэ старэча.

— Я ад аднаго дохтара, з Ломжы, — мела адказаць ёй прыезджая на польскай мове.

Старэча не разумела ў чым справа, таму на ўсякі выпадак рашыла прыняць працэдуру. Памятае як жанчына падлажыла ёй пад азадак нейкую мату, пастукала ў спіну, памацала жывот. Нічога прыемнага... І адразу прапанавала падпісаць паперу. У трох месцах. Нібыта, што масаж добра зроблены. Што задаволеная.

— Толькі разборліва падпішыце, — загадала яшчэ.

— А мяне штосьці *тхнула,* каб не пісаць, — успамінае Наталля Д. — І штось прымусіла змяніць, хоць грэх маніць. То кажу ёй: *Я чалавек недзісейшы, неграматны. Як хочаш, тры крыжыкі табе пастаўлю...*

— Яна не настойвала, — дадае пенсіянерка, — штось пабурчэла пад носам і давай Шуру намаўляць на свой масаж. Якраз суседка да мяне зайшла. Пабачыла, што каля хаты машына, пацікавілася хто наведаў. Найгорш, што суседка выпіўшы была. То тая *страхата* учапілася беднай.

* * *

Але пакуль *пеленгнярка* з Ломжы аформіла падвыпіўшую Шурку С., яна завітала ў домік пенсіянераў Любы і Сашы. Яе візіт старыя ўспрынялі як доўгачаканы цуд. Дзед ужо пяць гадоў перамяшчаецца на інвалідскай калясцы. Ад немачы абрыдла ўсё на свеце.

— Мой масаж паставіць гаспадара на ногі! — паабяцала *пеленгнярка,* — хопіць пяць разоў і ён падымецца з каляскі, стане самастойна хадзіць.

Падляшска-беларускі народ верыць у цудоўнае аздараўленне больш як у самога сябе. І зараз, калі перад знямоглымі пенсіянерамі залунала нота надзеі, яны даверліва прынялі працэдуру. Прыезджая спачатку памасавала бабулю, пасля дзеда. Нічога асаблівага не пачулі, але былі ёй удзячныя. За добрае слова, за подых надзеі. Вядома, падпісалі ўсе жаданыя паперы. На развітанне Люба ўсунула ў рукі сваёй *пеленгняркі* каробачку з дзесяцю яйкамі.

— А ўжо на другі дзень мы ледзь не памерлі ад крыўды, — гаворыць Люба. — Бо прыехала дачка з Гайнаўкі і дачыталася... што падпісалі ёй дамову на куплю прылад для масажу. За чатыры тысячы. На шчасце ў дамове быў пазначаны тэрмін дзесяці дзён, пасля якога дамова набывае законную сілу. На выпадак, калі б хто раздумаўся. І мы пачалі дзейнічаць, званіць. Дачка абзваніла Гданьск, Ломжу, Люблін. Тры разы з адвакатам гаварыла. Цяжка было адкрунуць тое ліха, ну, але ўдалося. А што рабіць калі за старых як мы, няма каму заступіцца, дапамагчы? — пытала рытарычна бабуля.




Дзед Саша не можа зразумець адкуль на свеце такія жанчыны-ашуканкі. Таму на ўласны рахунак ён прыдумаў крымінальна-сенсацыйную версію.

— Я то думаю, што тая бабка то *ў віндзені* была, і свайго спрыту навучылася.

І прысягнуў, што за парог не будзе пускаць незнаёмых жанчын, бо гэта адно гора. Не дарма кажуць, што як пераступіць дарогу баба або чорны кот, чакай няшчасця.

— Мы ўсё жыццё пражылі і дзвярэй не зачынялі, — уздыхае з горыччу.

* * *

У месяцы сакавіку г.г. Шурка С. атрымала меншую ў тры разы чым звычайна пенсію. Яна адразу наняла прыватку і пашыбавала ў гмінны кааператыўны банк. Там паяснілі ёй: *Вы ж сплачваеце крэдыт.*

— Што ты мне за х... гародзіш? — мела тады адказаць удава.

Бо да апошняй хвіліны пенсіянерка не верыла, што прыйдзецца ёй плаціць за масаж. Яна сама, стомленая тыднёвай выпіўкай, не памятала: падпісала той масажорцы паперы — ці не падпісала іх?! Таму калі ў Н. смяяліся з яе і палохалі паслядоўнасцямі, Шурка С. рэзала ўсім па-казацку ў адказ: — *Я на іх х... палажыла!*

*Пеленгнярка* з Ломжы завітала да яе ўжо на канец, у добрым настроі, пасля паспяховай здзелкі ў Любы і Сашы. Напоўна добраму настрою паспрыялі і яйкі ад вясковых курэй, якімі парадавала добрая бабка.

Шурка С., хоць забі яе, не памятае, што з ёй рабіла *пеленгнярка.*

— Я была на саракавой абедні па сваяку і крыху расслабілася, — прызнаецца вінавата.

Калі пасля тыдня на яе хатні адрас прыйшоў пакет ад фірмы з Гданьска з прыладай для масажу, таксама не хвалявалася.

— Я нават не распакавала пачкі, — у доказ пенсіянерка вядзе ў чысты пакой, дзе на стале па сённяшні дзень стаіць здаровы пакет. Сярод каляровых капаў і падушак прыкмячаю каляндар „Нівы” з радасным надпісам: *Шчасце ў роднай хаце маем, калі „Ніву” ўсе чытаем.*

— А вы чытаеце „Ніву”? — пытаю як збітая з панталыку.

— То ўжэ ж! — чую ў адказ. І дадае: — Відаць, яны спецыяльна праваслаўных на ахвяр выбіраюць!

* * *

Жорж С., які спачатку стараўся дапамагчы ашуканай пенсіянерцы, далей намаўляе яе шукаць справядлівасці ў судзе.

— Усе пацвердзяць у нас, што ў гэты дзень яе *не было дома,* штосьці адваюем.

Сама ўдава не мае намеру судзіцца:

— Хай яе судзяць тыя, што над намі, — кажа з нескрыванай палёгкай. — Бач, усё справядлівасць якась ёсць на свеце...

На цвёрдую пастанову пакрыўджанай паўплывае адзін факт. Іх *пеленгнярка* загінула ў пачатку года ў дарожнай катастрофе. Пра апошні выпадак паведаміла ўсіх ахвяр паліцыя.

— Праклялі яе добрыя людзі, — упэўненая Шурка С., — не дарма кажуць, лепш каб цябе на вайне падстрэлілі, чым праклялі добрыя людзі!

З-за фатальнай акалічнасці, як я зразумела ў час нашай размовы, удаве намнога лягчэй сплачваць свой крэдыт.

## Дэмаграфія Нараўчанскай гміны

Дваццаць гадоў таму ў Нараўчанскай гміне пражывала 5 330 чалавек, у тым ліку 2 705 мужчын і 2 625 жанчын. Для параўнання: у 1980 годзе ў гміне налічвалася 6 570 жыхароў (3 335 мужчын і 3 235 жанчын). Найбольшымі вёскамі тады былі Нараўка (783 асобы), Семяноўка (663), Старое Ляўкова (448), Скупава (349) і Новае Ляўкова (301).

Зараз — у 2012 годзе — у Нараўчанскай гміне пражывае 3 945 асоб. Найбольшай вёскай з'яўляецца Нараўка — 921 жыхар. Ва ўсіх іншых зменшыўся лік мужчын і жанчын. Цяпер іх пражывае: у Семяноўцы — 414, у Старым Ляўковае — 358, у Новым Ляўкове — 222, у Скупаве — 203, у Міклашэве — 174, у Плянце — 152, у Лешуках — 129, у Тарнопалі — 124, у Альхоўцы — 118 і ў Ахрымах — 106 чалавек.

## Солтыс і „Ніва”

„Ніва” піша пра найважнейшыя справы беларусаў у Польшчы. Яе трэба купляць і чытаць. Солтысы могуць многа зрабіць дзеля таго, каб жыхары вёсак куплялі наш беларускі тыднёвік. Аб гэтым не забывае солтыс Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны.

І так, у крамах ГСу ў Старым Ляўкове, Плянце і ў Нараўцы ды на пошце ў Нараўцы купілі ўсе экземпляры „Нівы” № 10 ад 4 сакавіка 2012 года. Усе „Нівы” № 11 ад 11 сакавіка г.г. купілі ў Старым Ляўкове і ў Плянце.

Варта дадаць, што солтыс Новага Ляўкова 14 сакавіка г.г. зрабіў падпіску на „Ніву” на другі квартал гэтага года. Хто з солтысаў возьме прыклад і будзе падпісвацца на наш родны часопіс?

**Ян ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Імкненні

Вядома, я не малады,
За мною — восемдзесят сем,
Да дзевяноста — тры гады,
Можа як-небудзь дажывем?

І будзе круглы юбілей,
Яшчэ адзін, ну і амін.
Падлік маіх падзей, надзей
І тых нядзейсненых хвілін.

Многа сваіх сардэчных дум
Я пераліў у вершаў змест.
Там гумар мой, таксама сум,
Маё прызнанне і пратэст.

Нашчадкам, змене маладой,
Передаю свой запавет:
Шануйце родны этнас свой
Так як шануе **Віктар Швед**

*Рэдакцыя „Нівы” шчыра віншуе спадара Віктара з ягоным юбілеем*

## Аб чаромхаўскіх інвестыцыях

Уладзімір СІДАРУК

**Аб працы войта Чаромхаўскай гміны можна пачуць усялякае. Адны хваляць Юрыя Шыкулу, іншыя кажуць, што ў гміне нічога не робіцца. У грамадстве, значыцца, няма аднадумнасці. А як у сапраўднасці справа маецца?..**

Сёлетні бюджэт гміны складае суму 12 949 955 зл. на баку прыбыткаў і 14 059 159 зл. на баку выдаткаў. Дэфіцыт 1 109 204 зл. будзе пагашаны банкавым крэдытам. Вось што пра інвестыцыі сказаў намеснік войта Ірынеі Леанюк.

— У мінулым годзе гміна паслала адзінаццаць заяў для рэалізацыі інвестыцыйных задач, у гэтым ліку дзве інвестыцыі ў кааперацыі з беларускім партнёрам. Гэтыя будуць рэалізаваны ў адпаведнасці з „Праграмай трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна 2007-2013”. Кошт першага праекта складае суму 4 429 324 еўра і тычыцца закупкі пажарнага абсталявання для Гайнаўскага павета ды дзвюх гмін з Бельшчыны: Бельска-Падляшскага і Орлі. Прадбачваецца закупка баявога пажарнага аўтамабіля для Чаромхі (900 тыс. зл.), 17 спецыялістычных выратавальна-тушыльных аўтамабіляў, выратавальнай лодкі і падрыхтоўка 80 пажарнікаў. Другая задача „Паправа трансгранічнай сістэмы аховы асяроддзя гмін Чаромха і Высока-Літоўск” (праект „Супольна ахоўваем Белавежскую пушчу”), — працягвае суразмоўца — тычыцца разбудовы санітарна-каналізацыйнай сеткі. Кожны з партнёраў будзе рэалізаваць задачу на сваім баку г.зн. Чаромха з польскага боку ў сваей гміне, затым Камянецкі і Пружанскі раёны Брэсцкай ды Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці на беларускім баку. Абедзве заявы знаходзяцца зараз на стадыі разгляду. — Варта адзначыць, — канстатуе суразмоўца, — што з нашага боку каналізацыйная сетка ўжо пракладзена з пагранперахода ў Ставішчы. Калі атрымаем датацыю, дык у гэтым годзе будзе яна падключана да ачышчальні сцёкаў у насычальні і пачне працаваць.

— Як рэалізаваны былі лакальныя інвестыцыі ў мінулым годзе? — цікаўлюся.

— Усе планавыя задачы былі выкананы па меры атрыманых сродкаў, — гаворыць далей намеснік войта Ірынеі Леанюк. — Закончылі рамонт вясковай святліцы ў Кузаве. Пабудавалі пляцоўку гульняў пры Пачатковай школе ў Чаромсе-Станцы. У рамках ліквідацыі матэрыялаў змяшчаючых азбест было знятых з дахаў 108,516 тоны шыферу ў сарака трох гаспадарках. Купілі гідраўлічныя прылады для пажарнай каманды ў Чаромсе-Вёсцы. Замянілі фільтрацыйную ўстаноўку на станцыі падгатоўкі вады ў Кузаве. Падрыхтавалі праектную дакументацыю на разбудову вуліцы Сасновай у Чаромсе (ІІ этап) ды закупілі плужны снегаачышчальнік для аўтамабіля „Ельч 014” для пажарнай каманды ў Чаромсе-Вёсцы. Апрача вышэйзгаданых інвестыцый гміна хадайнічала за тое, каб Павятовая пажарная камендатура ў Гайнаўцы передала баявы аўтамабіль „Ельч” пажарнікам у Чаромсе-Вёсцы. Рэалізуючы згаданыя задачы гміна пакарысталася еўрасаюзнымі сродкамі і датацыямі Маршалкоўскай управы. У рамках уласных коштаў была раманатавана дарога Зубачы — Вулька-Нурэцкая (ад мяжы гміны Чаромхі ў напрамку Зубачоў). Гаспадарчым спосабам рамантавалі святліцу ў Баброўцы...

— А што мяркуеце зрабіць у гэтым годзе? — пытаю.

— Прадугледжваем рэалізацыю наступных задач: рамонты вясковых святліц у Чаромсе-Вёсцы, Апацы-Вялікай, Баброўцы і ў Чаромсе-Станцы па вул. Фабрычнай, апрацаванне праектна-выканаўчай дакументацыі і перабудова дарогі на могільнік у Чаромсе-Станцы (ІІ этап), пракладка водаправода да сялэцтваў Апака-Вялікая і Пагулянка, як і пабудова санітарнай каналізацыі ў Ставішчах і Чаромсе па вул. Ставіскай, Мядовай, Ліпавай, Фабрычнай, Длугай, Тапалёвай, Новай, Вейскай, адрэзку Віснёвай, адрэзку Бочнай, апрацоўка тэхнічнай дакументацыі на перабудову гмінных дарог на вуліцы Дзібуа і Аградовай, прыспасабленне ўваходу для асоб з абмежаваннямі руху ў будынку Пачатковай школы ў Чаромсе, закупка газонакасілкі ды іншае.

Планы чаромхаўскага самаўрада, як бачым, даволі амбітныя. Ці задачы будуць выкананы, цяжка сказаць. З таго, што вядома, не ўсё ў мінулых гадах было рэалізавана. Канстатую гэта як жыхар аднаго з салэцтваў Чаромхаўскай гміны. Ці сёлета так будзе?.. Пажывем, пабачым...

## Шанц для Чаромхі

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

Пагранпераход у Полаўцах пачаў працаваць у пачатках 1990-х гадоў па дамове паміж урадамі Польшчы і Беларусі. Прыстасаваны ён для руху легкавых аўтамабіляў. Ад даўжэйшага часу мясцовы самаўрад хадайнічаў за перамену статуса пагранперахода з „беларускага” на „міжнародны” з магчымасцю перасякання мяжы грузавымі аўтамабілямі грузападымальнасцю да 7,5 тоны. Справа доўжылася некалькі год. Праблема вырашылася 6 лістапада 2008 г., калі Еўрасаюзная камісія зацвердзіла „Праграму трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна 2007-2013”. Мэтай праграмы з'яўляецца падтрымка трансгранічных працэсаў развіцця і павышэння ўзроўню жыцця насельніцтва ў прыгранічнай зоне. Увесь бюджэт праграмы на 2007-2013 гады складае суму 202,9 млн. еўра, у гэтым ліку 186,2 млн. еўра паступіць з еўрасаюзнай касы. Кошт інвестыцыі з польскага боку складае суму 178 млн. зл. З праграмы трансгранічнага сурацоўніцтва ўдалося здабыць 38 млн. зл. Дагэтуль былі выкананы работы на суму больш за 20 млн. зл. Апошнія грошы падляшскі ваявода хоча здабыць з „Польска-Швейцарскай праграмы супрацоўніцтва”. Прадугледжваецца, што ў Полаўцах будзе адпраўляцца ў суткі па абодвух баках каля 200 грузавых аўтамабіляў грузападымальнасцю да 7,5 тоны, каля 2 тысяч легкавых аўтамабіляў і 50 аўтобусаў. Інвестыцыя рэалізуецца адначасова ў Полаўцах на польскім баку і ў Пяшчатцы за мяжою. Здабытыя 38 млн. зл. прызначаюцца на рэалізацыю задач на польскім баку. Рэспубліка Беларусь атрымае 11 млн. еўра. На новым пагранпераходзе будуюцца памяшканні прыстасаваныя для пагранічна-мытнага кантролю, вартоўні для правадніко̂ў сабак, стойла для службовых сабак з вальерай, санітарыяты, вага і памяшканне для рэнтгенаўскай установкі. Завяршэнне інвестыцыі прадбачваецца на другое паўгоддзе 2014 года. Новазбудаваны тэрмінал займае каля 18 гектараў плошчы і будзе лічыўся суперсучасным міжнародным пагранпераходам. Гэта вялікі шанц для чаромхаўскай грамадскасці. У раёне ўзнікнуць новыя месцы працы. Замацуюцца партнёрскія кантакты ў сферы бізнесу. Дзякуючы пагранпераходу актывізуецца гаспадарчая дейнасць суб'ектаў у прыгранічнай зоне, разбудуецца інфраструктура даязных дарог да пагранперахода, а гэтым самым паменшыцца колькасць дарожных аварый. Несумненна палепшыцца міжнародная дарожная камунікацыя Польшча — Беларусь — Расія. А гэта важна ў рыначнай эканоміцы для заняпадаючай чыгуначнай Чаромхі.





**Пад навуковым кіраўніцтвам прафесара Аляксандра Баршчэўскага ў Варшаўскім універсітэце, на Факультэце прыкладной лінгвістыкі, у Кафедры беларусістыкі магістарскую працу *Сцяпан Копа — сучасны калекцыянер і даследчык беларускага фальклору Усходняй Беласточчыны* абараніла ў 2011 годзе Магдаліна Парэмбская-Рыбак з Мінска-Мазавецкага. Да працы далучаны фатаграфіі фальклорных калектываў з Беласточчыны і карты мясцовасцей. Мэта працы — ахарактарызаваць ролю народнай культуры і спроба прадставіць на гэтай аснове сучаснага даследчыка беларускага фальклору і аніматара культуры Сцяпана Копу, вядомага і заслужанага дзеяча культуры. Першая частка працы прысвечана агульным разважанням пра месца і праблемы народнай культуры, фальклору, традыцыйнай песні ў сучасным свеце ў кантэксце дзейнасці Сцяпана Копы.**

■ Міра ЛУКША

# Дыплом па Сцяпану Копе



■ Сцяпа Копа з маладой даследчыцай сваёй творчасці Магдалінай Парэмбскай-Рыбак

Зборы і запісы беларускіх песень — найважнейшы аспект працы С. Копы, таму што з'яўляюцца элементам ўвекавечання народнай культуры, якая ад шмат гадоў памалу занікае, — разважае маладая даследчыца. — Сцяпан Копа як музыка і фалькларыст асаблівай цікавасцю ахапіў народную музыку і песні беларускага люду як скарбніцу ведаў аб жыцці і культуры жыхароў гэтага рэгіёна. Яго музычная адукацыя папярэдзіла выхаванне ў асяроддзі, якому песні неадменна спадарожнічалі ў штодзённым жыцці. Сцяпан Копа вырашыў сваім стараннем выратаваць ад забыцця хаця б сціплую частку неацэнных песень, якія яшчэ жывуць сярод вяскоўцаў на Беласточчыне. Пачаткі зацікаўлення Сцяпана Копы трэба прыкмеціць ужо ў яго раннім дзяцінстве. Нарадзіўся ён 2 кастрычніка 1945 года ў Малінніках, вёсцы ў Арлянскай гміне, Бельскага павета, адкуль родам і ягоныя бацькі — Марыя і Пётр. Спеў і народная музыка былі неадлучнымі элементамі жыцця вёсак Беласточчыны, прысутнымі амаль у кожным доме. Ад 1952 да 1959 г. хадзіў ён у пачатковую школу ў Малінніках, дзе яго зацікаўленне і здольнасці прыкмеціла Надзея Валасовіч — настаўніца спеваў, якая запрапанавала яго бацьку зрабіць першы крок для развіцця таленту сына. Бацькі рашылі спрэзентаваць Сцёпу інструмент, за пазычаныя грошы купілі стары дваццацічатырохбасавы акардэон, які стаў яго першым музычным інструментам, якому застаўся верным у пазнейшыя гады свайго музыкавання. 1959-1963 гады гэта час адукацыі Сцяпана Копы ў Бельскім белліцэі імя Браніслава Тарашкевіча і час далейшага музычнага развіцця. Сцяпан іграў на тэнары ў школьным духавым аркестры, дасканаліў умеласць ігры на гармоніку, музыкаваў з ансамблем на вяселлях, забавах і вечарынках, — прадстаўляе дыпламантка пачаткі музыкавання героя працы.

Здаецца, магістарская праца Магдаліны Парэмбскай-Рыбак павінна апынуцца і ў школе ў Трасцянцы, і ў Гарадку (там ён ганаровы грамадзянін), дзе працаваў настаўнікам і вёў калектыў амаль 35 гадоў гадоў, і ў Міхалове, і ў беластоцкай ПШ № 6. Працаваў Сцяпан Копа і ў Беластоцкім музычным таварыстве, вёў хор у БГКТ, падтрымліваў „Хлопцаў-рыбалоўцаў" і іншыя беларускія калектывы, вёў кабарэ сеніёраў „Шпілька", працаваў у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры. За час гэтай працы падрыхтаваў да выдання зборы песень, якія сабраў у розных вёсках на тэрыторыі Усходняй Беласточчыны. Запісваў, архівізаваў, рабіў нотны запіс і ў выніку, пры шматлікіх фінансавых цяжкасцях, таксама выдаў пы дапамозе прыхільных яму ўстаноў і асоб. Першай публікацыяй Сцяпана Копы быў зборнік „Мая зямля", інспіраваны творчасцю Мікалая Ігнацюка, аніматара культуры, які жыў у той час у Рыбалах. Мае ўжо на свой рахунку восем кніг пра родную песню — рэпертуарных зборнікаў беларускіх фальклорных калектываў — м.інш. з Дабрывады (1994), Тыневіч (1995), Арэшкава (2003), з'яўляецца таксама рэдактарам выдання „Падляшскі спеўнік" (каля трохсот абрадавых і неабрадавых песень, з апрацаваным нотным запісам), „Песні Бельскай зямлі" (2006), „Хрысцінныя песні Усходняй Беласточчыны" (2008), „Песні Гарадоцкай зямлі".

— Сцяпана Копу можна параўнаць з найбольшымі збіральнікамі песень, а каштоўнасць ягоных збораў — з працай Федароўскага, — лічыць прафесар Аляксандр Баршчэўскі, прамотар працы Магдаліны Парэмбскай-Рыбак.

— Большасць інфармацый, якія датычаць жыцця і дзейнасці фалькларыста, паходзяць непасрэдна ад яго самога. Я мела прыемнасць сустракацца з ім некалькі разоў у яго доме ў Гараднянах каля Беластока, дзе мы вялі гаворку пра яго жыццё і працу, — прызнаецца Магдаліна Парэмбская-Рыбак. — На жаль, у агульнадаступных публікацыях адсутнічае інфармацыя пра спадара Сцяпана Копу.

У наступнай частцы дыпломнай працы ахарактарызваны сем (з васьмі) зборнікаў фалькларыста, змешчаны таксама іх вокладкі, а таксама здымкі з асобнымі народнымі спевакамі. У чацвёрты раздзел увайшоў агляд выбраных песень, якія знаходзяцца ў зборніках.

— Датычаць яны народных абрадаў, звязаных з нараджэннем, хрэсьбінамі дзіцяці і вяселлем, — заўважыла даследчыца. — Аналізую толькі змест, не звяртаючы ўвагі на нотны запіс, які знаходзіцца пры кожнай песні, ні на музычную тэрміналогію. Песні, якія збіраў С. Копа, датычаць радасных святаў, гэта бяседныя творы, звязаныя больш з гульнёй і пацехай. У гэтым раздзеле працы прадстаўляю агульныя рэаліі гэтых абрадаў. Сцяпан Копа ніколі не збіраў і не запісваў песень, звязаных са смерцю і пахаваннем, гэта якія аснаваны на рэлігійных матывах. На канцы працы я змясціла фотаздымкі з асабістых альбомаў аўтара, у якіх заключана частка гісторыі яго працы як аніматара і папулярызатара беларускага фальклору падчас фестываляў і іншых выступленняў, яго сямейны дом у Малінніках.

— Не ведаю, ці чалавек мае душу, але калі мае, то ў выпадку пана Копы, — прамаўляў Аляксандр Баршчэўскі ў час ляўдацыі ўзнагароды імя Вітальда Гулевіча, якую атрымаў Сцяпан Копа ў той час, калі абараняла свой дыплом Магдаліна Парэмбская-Рыбак, — гэтай душой ёсць беларуская народная песня на Беласточчыне. Сцяпан Копа прылічыўся да прыгожай плеяды стваральнікаў і захавальнікаў культуры як Ян Чачот, які выдаў сем тамоў збораў беларускай „вясьнячай" песні, як Оскар Кольберг, які 52-і том „Польскага люду" прысвяціў беларускаму Палессю, як выбітны збіральнік Міхал Федароўскі, аўтар васьмі тамоў „Беларускага люду на Літоўскай Русі". Спадар Копа — чалавек незвычайны. Калі беларуская народная песня мае душу, дык гэтай душой ёсць Сцяпан Копа!

— Праца Сцяпана Копы, сучаснага даследчыка і калекцыянера беларускага фальклору, з'яўляецца вельмі важнай, — мяркуе Магдаліна Парэмбская-Рыбак. — Дзякуючы яму, звесткі пра гісторыю, культуру і народную тоенасць трапілі ва ўсеагульны ўжытак. Мы маем магчымасць, калі будзем мець такое жаданне, перадаваць іх наступным пакаленням.

## Уражанні ад фестывалю

Мне ў гэтым годзе давялося быць гледачом-слухачом павятовага агляду і цэнтральных элімінацый XIX Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня-2012". З гэтай нагоды хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі ад пабачанага і пачутага.

У Беластоку ўжо дзевятнаццаты год запар праводзіцца фестываль беларускай песні, адной з мэт якога з'яўляецца раскрыццё здольнасцей таленавітай моладзі. Сёлета ахвотных прыняць удзел у цэнтральных элімінацыях было шмат. На працягу многіх гадзін журы слухала выступленні 93 выканаўчых адзінак і з іх ліку для галаканцэрта, які адбыўся 26 лютага ў Драмтэатры імя Вянгеркі, адабрала 29 выканаўцаў.

На канцэрце самадзейных калектываў адчуваеш, што гэта месца, дзе спыніўся час, бо толькі тут чалавек зноў і зноў вяртаецца ў дзяцінства, акунаецца ў культуру нашых продкаў. „Таму і прываблівае гэты цудоўны, казачны свет нашага фальклору, песень, музыкі", — прызнаўся мне мой субяседнік.

Кожны калектыў стараецца выканаць свой рэпертуар па-майстэрску, каб прынесці задавальненне слухачам. Самадзейнікі, якія ў час выступленняў адчуваюць невераготную эмацыйную стомленасць, на другі дзень зноў збіраюцца ў сваіх святліцах, школах на рэпетыцыі, нягледзячы на складанасці, з якімі часамі прыходзіцца ім змагацца.

„Намі авалодваюць прыемныя пачуцці, калі мы стаім на сцэне, спяваем і чуем усмешку публікі, апладысменты. Гэта дае станоўчы зарад энергіі не толькі членам калектыву „Цаглінкі", але і ўсім артыстам выступаючым на сцэне, — дзеліцца ўражаннямі мая субяседніца з „Цаглінак". — Публіка дорыць нам добры настрой, а гэта ў сваю чаргу аблягчае нашу працу".

На спявацкія конкурсы калектывы прыязджаюць з творчымі дасягненнямі — так вопытныя зоркі эстрады, як і пачаткоўцы. Правядзенне такіх конкурсаў прыносіць свой плён. Па-першае, гэта стымул для новых гуртоў, якіх з кожным годам усё больш і больш. Па-другое, артысты маюць магчымасць выступіць на вялікай сцэне перад масавым слухачом. Па-трэцяе, гэта добрая нагода для папулярызацыі фальклору, які спадарожнічае нашаму жыццю. Як добра, што калектывы сустракаюцца і выступаюць на розных мерапрыемствах, арганізаваных Галоўным праўленнем БГКТ у Беластоку.

І так трымаць!

## Расклады ўжо з'явіліся!

У „Ніве" № 9 ад 26 лютага г.г. была мая заметка пад загалоўкам „Дрэнна, калі няма раскладаў". Пісаў я, што здаўна няма раскладаў язды аўтобусаў ПКС на прыпынках, між іншым, у Плянце, Гарадзіску, Нараўцы, Свінароях і ў Скупаве. Як вядома, яны неабходныя.

Ад 8 сакавіка г.г. расклады ўжо ёсць! Яшчэ дадаткова далі новыя расклады ў Старым Ляўкове і ў Новым Ляўкове. Хачу падзякаваць за дзейсны падыход да справы члену Праўлення ПКС у Беластоку Юзафу Пятру Кліму.

**Ян ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Дзе прапалі здольныя гімназісты?

Аб прэзентацыі ў конкурсе „Роднае слова” можна сказаць адно — тут вялікі патэнцыял. Як заўсёды, дзеткі масава прыступілі да конкурсу. Каля дваццаці ўдзельнікаў прыехала з Сакольшчыны, са школ у Бабіках і Шудзялаве. Гарадок прадстаўлялі дашкольнікі і гімназісты. Як кожны раз не падвялі дзеці з Рыбалаў, якіх падрыхтавала Лідка Мартынюк. Аднак калі ідзе пра Беласток — тут змянілася ўсё. Да конкурсу не прыступіла „чацвёрка”, якая гадамі дыктавала тон і выканаўчыя манеры цэламу мерапрыемству. Па сёння памятаю ўсе выступленні Наталлі Швед, якая падбірала колкія і непакорныя творы, што, дарэчы, падабалася малодшым сябрам. Падабаліся таксама вершы з жартоўным зместам, якія арыгінальна прадстаўлялі хлопцы — Міхал Хмялеўскі ці Мішка Бабік. Магчыма, заступяць іх сённяшнія дашкольнікі, дзе многа здольных і зацікаўленых сцэнай дзяцей. 16 сакавіка, у час раённага спаборніцтва, дашкольнікі складалі найбольшую групу ўдзельнікаў. Дзеткі прыехалі з цэлага раёна: з Гарадка, Залук, Рыбалаў і, вядома, з Беластока (разам 35 асоб). У гэтай групе перамагла рашучая Бэата Спас з Беластока. Хоць публіцы найбольш спадабаўся Аляксандр Здрайкоўскі, які паказаў сцэнічны тэмперамент і дзіцячую фанаберыю. Калі ідзе пра пачатковыя школы, у катэгорыі класаў I-III і IV-VI вельмі прыстойна выступілі дзеткі з Непублічнай школы імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Яны заваявалі ўсе першыя месцы: Тамаш Мусюк, Зузанна Бакер, Аляксандра Салавянюк і Арыядна Бакер. Тое, што вылучала іх сярод іншых, гэта прыгожае вывучэнне зместу і падборка твораў. Вучні дэкламавалі маладых аўтараў і старых класікаў. Лаўрэатка першага месца Арыядна Бакер выступіла з „Іконай” Віктара Шведа. Яе малодшая сястра Зузя дэкламавала „Сароку з Сарочай Ножкі” Міры Лукшы. Празаічны твор нашай рэдакцыйнай сяброўкі перамог таксама ва ўзроставай катэгорыі гімназістаў. З інтэрпрэтацыяй апавядання „Верабейчык-Кірэйчык” выступіў Куба Андрацкі з Саколкі. Куба, нягледзячы на свой дастойны ўзрост (ён ужо гімназіст трэцяга класа), як заўсёды трымаў высокі ўзровень. Яго выступленне паказала наколькі мілагучнай і прыгожай можа быць беларуская мова!




Фота Ганны Кандрацюк



Фота Ганны Кандрацюк

Як не цікава, лаўрэат не з’яўляецца навучэнцам беларускай мовы, а толькі ведае яе з хаты. Апошняя заўвага вельмі дарэчы. Сярод дэкламатараў траплялiся навучэнцы, якія жорстка калечылі словы і вымаўленне, быццам не разумелі пра што гавораць. Рашэнне арганізатараў, каб пабольшыць колькасць удзельнікаў коштам дашкольнікаў (усіх дэкламатараў па спіску было 104), не зусім паспрыяла ідэі. Дашкольнікі не цалкам разумелі сваю ролю. Пасля выступлення ім хацелася ісці гуляць з сябрамі... З-за гэтага на зале ўвесь час не хапала засяроджанасці, неабходнай для такога роду мерапрыемства. Не дарма старшыня камісіі доктар Васіль Сегень што і раз суцяшаў залу. Для маладога дэкламатара важна, што скажуць пра яго сябры. Калі з іх боку няма зацікаўлення, усё здаецца нецікавым. Гэтая з’ява найбольш спрацавала ў час выступлення гімназістаў, якія выступалі перад адной камісіяй. У іх падыходзе і падрыхтоўцы адчувалася вялікая абыякавасць. Шкада. Гімназія, гэта ўзрост, які дазваляе на спелую і поўную прэзентацыю твора і рэкламу сваёй асобы. **ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа

### Ці добра быць жанатым?

Адам пытае: — Тата,
Ці добра быць жанатым?
Ці лепшы выхад нейкі
Каб жыць без сямейкі?

— Каб быў самотным татка
Не меў бы ты маткі.
І без сям'і таксама
Не было б і Адама.

### Ці молімся перад ядою?

Настаўнік Божага закона
Пытанне задае такое:
— Ці моліцеся прад іконай
Перад дамашняю ядою?

— А мы не молімся, вядома,
Раптам азвалася Тамара,
Бо мы ямо заўсёды дома,
А наша мама добра варыць.

## Конкурс пра вясну (13)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Як завецца дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы?**
*а) Родныя вершы,*
*б) Паэтычны голас,*
*в) Роднае слова.*

**2. Хто сёлетні лаўрэат „Роднага слова” ў раённых спаборніцтвах у Беластоку ў катэгорыі гімназія?**
*а) Наталля Паплаўская з Гарадка,*
*б) Яна Красоўская з Беластока,*
*в) Куба Андрацкі з Саколкі.*

**3. Творы якога аўтара-„белавежца” двойчы перамаглі ў беластоцкім конкурсе „Роднае слова”?**
*а) Галены Анішэўскай,*
*б) Міры Лукшы,*
*в) Лідзіі Мартынюк.*

**4. Дзе найперш былі надрукаваныя „Жывінкі з глыбінкі” і „ Дзяўчынка і хмарка” Міры Лукшы?**
*а) у „Зорцы”,*
*б) у календары БГКТ,*
*в) у альманаху „Тэрмапілы”.*

Адказы дасылайце да 8 красавіка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 10:** Як першая на зломе зімы і вясны зацвітае сон-трава; старажытны абрад абуджэння мядзведзя (які асабліва практыкавалі прыпушчанскія людзі) — камаедзіца; герой літаратурнага нарысу „Паэзія — каханне жыцця” светлай памяці Уладзімір Гайдук; першы нумар „Нівы” выйшаў 4 сакавіка 1956 года ў Беластоку.

Узнагароды — ***CD з творамі легендарнага Марка Галонзкі*** — выйгралі **Войцех Куптэль** з Арэшкава, **Ангеліка і Адам Сцепанюкі** з Бельска-Падляшскага. Віншуем! .

**ЗОРКА**

# Падарунак дзяўчынкі Мані

## (легенда бразільска-амазонскага народа тупі)

У глыбокай старажытнасці нашыя продкі хавалі сваіх памерлых пад... падлогай. Яны верылі, што такім чынам прыдбаюць сваёй сям'і і сядзібе апеку памерлых. Гэты звычай звязваў іх з месцам і застаўляў думаць пра аселы лад жыцця. Таму невыпадкова словы памост і пагост (могільнік) падобныя на сябе.

Звычай хавання памерлых пад падлогай па сённяшні дзень практыкуюць некаторыя першабытныя плямёны Амазоніі. Паслухайце, якая гісторыя нарадзілася з аднаго пахавання. У амазонскім племені індзейцаў тупі прыйшла на свет дзяўчынка, якую назвалі Маняй. Людзі глядзелі на яе ды не ведалі як думаць. Дзіця адрознівалася ад іншых у вёсцы. У маленькай Мані была снежна-белая скура і ясныя валасы. Нягледзячы на „іншасць", бацькі абажалі дзяўчынку. Кожны раз, пакуль яна засне, матуля спявала ёй калыханкі. Маня



з неразгаданай усмешкай успрымала іх змест. Здавалася, яна разумее ўсё на свеце. Калі песні краналі шчасце, смяялася, а калі яны распавядалі пра бяду і нястачы, плакала. Маці з трывогай спазірала на яе, быццам прадчувала што здарыцца...

І вось, здарылася непапраўнае.

Манечка захварэла і памерла. Згодна традыцыі, пахавалі яе ў хатцы пад падлогай. Кожны дзень матуля палівала яе „магілку" ручаём слёз. Яна не магла змірыцца са смерцю сваёй ластаўкі. Кажуць, матуліны слёзы гаючыя і святыя. Аднойчы з таго месца, дзе пахавалі дзіця, прабілася расліна. Яна расла не па днях, а па гадзінах. Каб усцерагчы хатку, бацькі ўзяліся капаць дзіўны від флоры. І калі яны дакапаліся да кораня, яшчэ больш здзівіліся. Бо замест кораня яны пабачылі тоўстую бульбу, аслоненую залаціста-ліловай шкарлупінай, з-за якой віднела снежна-белая сярэдзіна. Яны ўсё зразумелі. З той бульбіны зрабілі муку, згатавалі страву і, згодна традыцыі, пайшлі накарміць ёю сваіх багоў. І тут здарыўся чарговы цуд. Калі яны вярнуліся ў вёску, усе загоны і палеткі былі запоўнены той жа раслінай. Смак новай расліны спадабаўся жыхарам вёскі. Людзі ведалі, хто паслаў ім дар, таму ў гонар памерлай дзяўчынкі Мані назвалі яе маніёк. Навіна пра цудоўную расліну вокамгненна абышла навакольныя плямёны. Па сённяшні дзень маніёк з'яўляецца асновай харчавання многіх плямёнаў, якія пражываюць у даліне ракі Амазонкі. Ды не толькі. Сёння маніёк вядомы ва ўсім свеце як экзатычны далікатэс. Мы таксама можам купіць яго ў супермаркетах і падрыхтаваць нейкі рарытас. А рэцэпт найзручней знайсці ў інтэрнэце!

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Віктар Шалкевіч: Падобны на сябе!



http://arche.by

— Нібыта я на Корчака падобны, сказаў мне дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі Раберта Скальмоўскі, — гаворыць Віктар Шалкевіч, гарадзенскі бард і акцёр.

Ён менавіта меў зайграць галоўную ролю ў першым вялікім музычным спектаклі, які рыхтуе гэтая ўстанова. Прыязджаў ён пару разоў у Беласток, правяраў сябе, вучыўся. Сказаў мне, што нават знайшоў свой голас. Аднак усё гэта прывяло яго да рашэння, што Корчака з яго не будзе.

Гэта безумоўна складаная сітуацыя, калі свету ўжо абвясцілі, што беларускі акцёр зайграе ў польскім спектаклі, а пасля нейкага часу ўсё мяняецца і трэба адкручваць, тым больш, што Віктар Шалкевіч ад гэтай прапановы быў сапраўды шчаслівы.

— Мне ўжо здаўна здавалася, што павінна мяне сустрэць нешта добрае, я ж не п'ю, не куру, цяжка працую, чаму не?

У нейкім сэнсе ўзнагародай мела быць праца пры мюзіклі. Трэба дадаць, што першая роля, у якой пабачыў дырэктар Віктара Шалкевіча, гэта быў Ян Тарасевіч, выдатны беларускі кампазітар з Саколкі, пра якога кніжку напісала Ганна Кандрацюк. Выглядае на тое, што хутчэй за ўсё Віктар напіша п'есу пра Тарасевіча, бо апрача акцёрскай працы і бардаўскай дзейнасці рэалізуе сваю прыналежнасць да саюза пісьменнікаў. Тым самым перадае свае думкі і сваю грамадзянскую пазіцыю, бо, як сам падкрэсліў, беларуская інтэлігенцыя забыла, што трэба несці людзям веды, праўду, асвету. Мушу прызнаць, аднак, што была гэта вельмі аптымістычная размова з чалавекам, які вельмі інтэнсіўна жыве, бярэ многа ад жыцця і шмат дае. Прытым случае Баха і Генэзіса ды гурту „Прокол Гарум" — брытанскай легенды, якая дэбютавала ў другой палове 60-х гадоў. Гэта аднак не таму, што ён стары дзядзька, а проста спелы, разумны чалавек. Не кожны мае такую самасвядомасць.

Мюзікл „Корчак" пра лёс доктара Януша Корчака, які загінуў з жыдоўскімі дзяцьмі ў канцлагеры ў 1942 годзе паўстае надалей, але ўжо без Віктара Шалкевіча.

— Я ж ніколі не вучыўся чытаць ноты! — прызнае бард — Мала часу, бо прэм'ера летам, а працы неверагодна многа такому драматычнаму акцёру як я. Буду канчаць кніжку...

**i_basovka@o2.pl**

# Галерэя ЗОРКІ



Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Паўлік Якубюк (ПШ у Нарве).

**2. Твой любімы прадмет:** беларуская мова.

**3. У жыцці хачу стаць:** бацюшкам.

**4. У сяброў цаню:** сімпатычнасць і давер.

**5. Не люблю:** брыдкіх мянушак.

**6. Па-беларуску размаўляю:** з бабуляй, часам з бацькамі і з настаўніцай беларускай мовы.

**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** «Прыгоды Пінокіё» Карла Калодзі.

**8. Падабаецца мне музыка:** беларуская і руская музыка.

**9. Твае ўлюбёныя стравы:** адбіўныя катлеткі.

**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю пахадзіць па сваім панадворку.

**11. Калі дарасту хачу жыць:** у сваёй вёсцы, у Навінах.

# Польска-беларуская крыжаванка № 13

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 9:**

Сядзёлка, дзень, лёд, но,сон, круг, ніва, мінак. Касач, сядло, дзённік, дзед, Іна, ён, квас, шаль, рака, ну, экалогія.

Узнагароды, дыдактычныя гульні (з *у* і *ў*), выйгралі **Рафал Марчук**, **Барташ Ламашкевіч** з Нараўкі, **Юстына Якубюк**, **Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага, **Адрыян Бугвін**, **Маргарыта Галёнка** з Арэшкава, **Анна Карчэўская** з Гайнаўкі, **Крыстыян Грушэўскі** з Дубін. Віншуем!



**У Рыбалах з 2009 года паспяхова дзейнічае Музей матэрыяльнай культуры „Бацькаўшчына”. Яго кірылічная назва на беларускай літаратурнай мове на ўваходных дзвярах выклікае зацікаўленне ў турыстаў, якія спыняюцца ў Рыбалах, каб паглядзець мясцовую царкву. Ад настаяцеля, мітрафорнага протаіерэя Рыгора Сасны або ад матушкі Антаніны Троц-Сасны даведаюцца яны і пра музей матэрыяльнай культуры, экспанаты якога — сведкі мясцовай беларускай традыцыі і культуры. Ахвотных матушка і бацюшка запрашаюць наведаць музей.**

Тэкст і фота
Аляксея МАРОЗА

# Даведнік аб „БАЦЬКАЎШЧЫНЕ”



Матушка Антаніна Троц-Сасна з нававыдадзенай кніжкай



Айцец Рыгор Сасна пры захаваных у добрым стане жорнах

Стваральнікамі музея „Бацькаўшчына” з’яўляюцца матушка Антаніна і айцец Рыгор, якія з дапамогай сваіх прыхаджан, людзей добрай волі і з падтрымкай мясцовых улад сабралі звыш 2 тысяч экспанатаў, што, калі ўзяць пад увагу магчымасці музея, які дзейнічае на грамадскіх пачатках, з’яўляецца вельмі вялікай колькасцю. Знаёмяцца з імі прыезджыя і мясцовае грамадства. Людзям маладога пакалення частка экспанатаў ужо малавядомая або нават і зусім невядомая. Старэйшыя заходзяць паглядзець на прылады працы і вырабы, якімі карысталіся ў сваёй маладосці і паўспамінаць мінулае. Матушка Антаніна сваімі красамоўнымі аповедамі ўмее зацікавіць наведвальнікаў музея нават малавядомымі экспанатамі. Калі турыстаў прымае айцец Рыгор, таксама патрапіць многа расказаць аб жыцці ў мінулым ды прыладах працы і ручных вырабах, сабраных у большасці ў Рыбалаўскім прыходзе. Нядаўна выйшла з друку кніжка аўтарства матушкі Антаніны Троц-Сасны — «„Бацькаўшчына” Музей матэрыяльнай культуры ў Рыбалах», якая расказвае пра музей, мясцовую гісторыю і пералічвае экспанаты. Каб можна было выдаць гэты даведнік, трэба было перш за ўсё дэталёва апісаць паасобныя экспанаты і зрабіць вопісы выставачных аддзяленняў. Матушцы ў складанні даведніка дапамагаў айцец Рыгор Сасна. Выдаўцом прыгожай кніжкі з’яўляецца аб’яднанне „Музей малой айчыны ў Студзіводах”, а рэдактарамі — Дарафей Фіёнік і Тамаш Суліма са студзіводскага музея.

— Я жыву гэтым музеем. Хачу, каб як найбольш ведаў аб тым, як жылі і працавалі нашыя бацькі і дзяды, можна было пераказаць наступным пакаленням. Сярод экспанатаў маюцца сапраўдныя шэдэўры, якія выйшлі з-пад рук нашых продкаў. Нашыя жанчыны патрапілі цудоўна ткаць і вышываць, былі сапраўднымі народнымі мастачкамі, а рэзультат іх працы можна ўбачыць на нашых экспазіцыях, — сказала матушка Антаніна Троц-Сасна.

Заехаўшы ў Рыбалы, два разы заходзіў я ў музей „Бацькаўшчына”, першы раз з матушкай Антанінай, а другі раз з айцом Рыгорам. Будынак былой школы, прыстасаваны для патрэб музея, распаложаны па-суседску ад прыхадскога дома. Калі матушка Антаніна стала абводзіць мяне па музеі, відаць было, што сапраўды жыве новастворaным музеем і моцна радуецца новапрыдбанымі экспанатамі.

Адкрыццё музея „Бацькаўшчына” адбылося 1 мая 2009 года. Тады айцец Рыгор Сасна адзначаў 70-годдзе з дня нараджэння. Урачыстасць удастоілі мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава і шматлікія знатныя госці. Тады было ў музеі каля 300 экспанатаў, а зараз іх звыш 2000, апрача паштовых марак, якіх некалькі тысяч красуецца на другім паверсе. Нядаўна перадалі іх Марыя і Данат Макалі з Беластока, якія належным чынам ацанілі значэнне рыбалаўскага музея. Маглі ж перадаць сямейную калекцыю іншай музейнай установе. Але не зрабілі гэтага, толькі два вялікія чамаданы поўныя марак, 80 прыродазнаўчых кніжак і іншыя прадметы рашыліся перадаць у добрыя, паводле іх, рукі, прыхадскому музею. Ёсць таксама шмат іншых ахвяравальнікаў з-па-за Рыбалаўскага прыхода.

— Віншую з вялікім поспехам для дабра прыхода, яго вернікаў, гміны і цэлага рэгіёна. Я рады і дзякую Богу за гэты дар для Царквы і народа, — упісаўся ў хроніку ў дзень адкрыцця рыбалаўскага музея мітрапаліт Сава і падзякаваў уладам Заблудаўскай гміны за перадачу былога школьнага будынка на патрэбы прыхода.

— Музей у Рыбалах вырас з гісторыі вёскі і яе наваколля. Без традыцый, без культурнага кантэксту цяжка было б стварыць месца, якое аб’ядноўвае матэрыяльны і духовы здабытак мінулых пакаленняў гэтай зямлі, — лічыць матушка Антаніна Троц-Сасна.

Апісванне музея ў даведніку пасля ўступных слоў распачынаецца менавіта з гісторыі вёскі Рыбалы і падзей, якія спрычыніліся да стварэння музея „Бацькаўшчына”.

— Музей гэта сабраныя мёртвыя прадметы, але, гледзячы на экспанаты, старэйшыя людзі ўспамінаюць свой сямейны дом, дзяцінства сярод мэблі і прылад. Прадметы сабраныя ў музеі гадамі былі з дзядулямі, бацькамі і дзеткамі, а цяпер радуюць нашых наведвальнікаў. Музей у Рыбалах узнік з патрэбы сэрца, а зараз з’яўляецца соллю зямлі праваслаўнага прыхода, — напісала ў кніжцы матушка Антаніна, якая многа часу працуе ў музеі на грамадскіх пачатках і ахвяроўвае многа сваіх сіл дзеля разгортвання яго дзейнасці. У многім дапамагае ёй айцец Рыгор Сасна, які быў ініцыятарам стварэння музея.

— На ўсё ёсць Божае блаславенства. Будынак былой школы трэба было прыстасаваць для іншых патрэб. Паколькі першая школа дзейнічала тут на прынцыпах прыхадской школы, таму знаходзілася яна побач прыхадскога дома. Калі паявілася нагода ізноў выкарыстаць будынак з карысцю для Царквы і рэгіёна, мы ёй пакарысталіся. Нас радуе, што радныя аднадушна прагаласавалі, каб перадаць будынак на музейную дзейнасць і што надалей паступае дапамога з гміны. Музей наш будзе служыць жа захаванню ад забыцця нашай культуры і тоеснасці, а дзякуючы добраму распалажэнню побач краёвай дарогі Е-19 музей павінна наведваць многа людзей, таксама з-па-за нашага рэгіёна, — сказаў айцец Рыгор Сасна.

У нававыдадзенай кніжцы састаўлены каталог музейных экспанатаў. Яны названы на рыбалаўскай гаворцы і на польскай мове, коратка апісаны і названы ахвяравальнікі экспанатаў. Новае выданне раздаецца ахвяравальнікам. Людзі вельмі радуюцца, калі могуць прачытаць сваё прозвішча каля канкрэтных, падораных музею ручных вырабаў або прылад працы. Экспанаты падзелены на 15 выставачных аддзяленняў, паводле іх прызначэння і апісаны ў кніжцы ў 15 раздзелах, паводле характару прылад і вырабаў. Аднак матушка не проста апісвае экспанаты, але цікава расказвае пра сельскагаспадарчыя ці хатнія работы, у час якіх выкарыстоўваліся розныя прылады працы, звяртаючы адначасна ўвагу на святы, вераванні людзей, іх зацікаўленні, а нават спосаб адпачынку. Апісваючы, напрыклад, даўнія ткацкія вырабы распавядае пра іх прыгажосць, талент і працавітасць майстрых, якія іх выканалі і стараецца як мага найлепш зацікавіць чытачоў кніжкі экспанатамі. Думаю, што гэта матушцы ўдалося. Музейныя экспазіцыі ўдала абфатаграфавалі Аліцыя Ігнацюк і Наталля Дораш, якіх прыгожыя каляровыя здымкі змешчаны ў новай кніжцы.

Заўважыў я вялікую розніцу паміж тым, што ўбачыў у маі 2009 года, а тым, што ёсць зараз. Маю тут перш за ўсё на ўвазе колькасць і характар экспанатаў. Многа іх прыбыло, паявіліся новыя, вельмі рэдкія і цікавыя экспанаты. Матушка займальна расказвала аб прыладах і вырабах, а ў некаторых выпадках падпытвала якое было прызначэнне паасобных экспанатаў. Было некалькі такіх прылад працы, якіх прызначэння я не ведаў. Напрыклад, не мог я дадумацца для чаго служыць адно драўлянае абсталяванне, і толькі ад матушкі даведаўся, што з дапамогай яго выконвалі *кулікі* з саломы, якімі пасля крылі хаты ці клуні. Затое нескладана было дадумацца пра прызначэнне самагоннага абсталявання, якое ўжо прыржавелае і няздатнае для карыстання, а на якое звярнуў увагу пазней айцец Рыгор. Нескладана было таксама расшыфраваць прызначэнне тэхнікі 1970-х гадоў, бо я сам карыстаўся падобнай, будучы яшчэ вучнем падставовай школы.

— Наша кніжка — гэта перш за ўсё падзяка для шматлікіх ахвяравальнікаў, якія перадалі экспанаты ў наш музей. Задума выдаць яе ўзнікла пасля стварэнння музея, але трэба было часу, каб апісаць усе экспанаты. Прозвішчы нашых ахвяравальнікаў застануцца для наступных пакаленняў, — сказаў айцец Рыгор Сасна і паведаміў, што з часам прадбачваецца прыдбаць больш прафесійнае, чым зараз, абсталяванне для прэзентацыі экспанатаў.

— Ідэя стварэння музея выйшла ад матушкі, бацюшкі і ад нашых людзей. Ініцыятыва аказалася вельмі ўдалай, бо служыць усяму грамадству. Найбольш пры стварэнні музея працавалі матушка і бацюшка. Зараз ёсць нам чым пахваліцца ў нашай гміне. Зрабілі мы падлік расходаў і хочам, пачынаючы з 2013 года, выступаць за вонкавымі сродкамі, якія прадбачваем выкарыстаць на перабудову даху, каб супадаў ён з акружаючай архітэктурай, — паведаміў Міраслаў Максімюк, віцэ-бурмістр Заблудава, а адначасна жыхар Рыбалаў і вернік праваслаўнага прыхода, з якім мы сустрэліся на плябаніі. Матушка Антаніна сказала, што прызначана для музея працаўніца, якая дбае за парадкам у музеі і на вялікай былой школьнай плошчы, а сродкі на яе зарплату выдаткоўваюцца з гміннага бюджэту. Матушка ўдакладніла таксама, што ў бліжэйшым часе прадбачваецца мяняць частку аконнай сталяркі, а ў будучыні прадугледжваецца зрабіць больш грунтоўны рамонт будынка. Дабавіла яшчэ, што прыватных спонсараў, якія таксама фінансавалі новае выданне, дапамагаў шукаць віцэ-бурмістр Заблудава Міраслаў Максімюк. Галоўнымі спонсарамі нававыдадзенай кніжкі з’яўляюцца Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Гарадская ўправа Заблудава, Праваслаўны прыход у Рыбалах і Брацтва св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Турыстычныя заахвочванні

**Тры дні (16-18 сакавіка) можна было знаёміцца ў Беластоку з прапановамі турагенцтваў, агратурыстычных гаспадарак, паасобных гмін і іншых арганізатараў разнародных форм адпачынку ў час сёлетняга Падляшскага турыстычнага кірмашу. Свае прапановы рэкамендавалі м.інш. Нараўчанская, Гайнаўская, Мельніцкая, Гарадоцкая гміны. У семінарнай частцы кірмашу вяліся размовы аб Белавежскай пушчы як рухавіку развіцця турызму і трансгранічным веласіпедным турызме ў Польшчы і Беларусі. Турыстычныя атракцыёны, асабліва звязаныя з Аўгустоўскім каналам, прэзентавалі прадстаўнікі Гродзенскай вобласці.**

Турыстычны кірмаш (у спартыўнай зале Універсітэта ў Беластоку) сарганізавалі ўжо сёмы раз па ініцыятыве Падляшскай рэгіянальнай турыстычнай арганізацыі (ПРТА) і пры саўдзеле аддзела Падляшскай палаты турызму (ППТ). У гэты раз было 47 стэндаў, на якіх у большасці рэкамендавалася па некалькі экспанентаў. Як адзначыла камісар кірмашу Агнешка Асташэўская, гэта найбольшае мерапрыемства турыстычнай прамысловасці ў паўночна-ўсходняй Польшчы і накіравана яно ўсім, хто плануе свой адпачынак у краіне або за мяжой. Ядвіга Дамброўская, кіраўнік ПРТА, гаварыла „Ніве” аб турыстычным супрацоўніцтве паміж Падляшскім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю:

— Праблемы ў нашых турыстычных кантактах практычна не існуюць, ну, можа, час ад часу па-за візамі. Бывае, што трэба даўжэй чакаць віз. Ёсць фірмы на тэрыторыі Падляшскага ваяводства, якія ўжо спецыялізуюцца ў прапановах на Беларусь, а адначасова турыстаў з Беларусі прывозяць да нас. Белавежская пушча з’яўляецца такім злучальнікам польска-беларускай трансгранічнасці. Дынамічна развіваецца веласіпедны турызм. Аўгустоўскі канал спалучае наш турызм, асабліва байдарачны. Старшыня аддзела ППТ з’яўляецца адным з уласнікаў турагенцтва, якое займаецца найбольшым продажам польска-беларускіх турыстычных прапаноў.

Яўген Лаўранюк, старшыня падляшскага ППТ:

— Найбольшай праблемай у польска-беларускім турызме з’яўляецца сітуацыя ў вярхах. Адлюстроўваецца гэта ў меншым ліку ахвотных турыстаў з Польшчы, якія хочуць паехаць у Беларусь. Незалежна ад нашай ахвоты і імкненняў, турызм на гэтым абшары слабы. Польскае грамадства прымае пад увагу тое, што аб Беларусі гаворыцца ў СМІ, ды гавораць або блага, або ўвогуле. Стараемся пераконваць, каб людзі туды паехалі, самі пабачылі, як выглядае Беларусь. Няма візавых праблем. Консульствы ў Беластоку ці ў Варшаве спраўна выдаюць турыстычныя візы. Падобна ёсць і ў консульстве Польшчы ў Гродне; турыстычныя падарожжы ў Польшчу ўжо не з’яўляюцца праблемай. Беларускія турагенцтвы маюць спецыяльныя калідоры ўваходу ў польскія консульствы.

Мы спыталіся ў старшыні Лаўранюка, ці выгадна турагентцвам арганізаваць турыстычныя паездкі ў Беларусь. Адказаў:

— Вельмі. У Беларусі шмат помнікаў. Палякі з асаблівай ахвотай ездзяць у месцы даўней звязаныя з іх краінай: у месцы звязаныя з Элізай Ажэшка, Адамам Міцкевічам ці родам Радзівілаў. Пасля дэвальвацыі рубля ў Беларусі цэны для палякаў у меру прывабныя. Аднак такія прапановы як пешыя экскурсіі ў Беларусь па Белавежскай пушчы надалей карыстаюцца малым зацікаўленнем. Можа ад апасак з-за здабыцця віз і цэн.

Незалежна ад прадбачання куратар Агнешкі Асташэўскай, замежная прапанова была на кірмашы досыць сціплая. Прыкмецілі мы літоўскі стэнд, дэталёва рэкламуючы адпачынак у Друскеніках ды рэкамендавалася краса Марока і Грузіі. Багата паказала свае прапановы Гродзенская вобласць, стэнд якой падрыхтавала Упраўленне спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама. Стаяўшая пры ім Людміла Фурман — старшы адміністратар гродзенскага „Аквацэнтра”,




апранутая ў беларускі нацыянальны строй, хваліла:

— Штогод пашыраецца турыстычная прапанова нашай вобласці. Пачала сваю дзейнасць свабодная эканамічная зона, вольная ад падаткаў. Рэкамендуем наведаць Агустоўскі канал з нашага боку, Гродна, поўнае помнікаў, Лідскі замак, Навагрудак ці Нясвіж. Маем шырокую сетку прыватных і дзяржаўных гасцініц. Можна таксама на суткі ці на даўжэй зняць кватэру. Прапануем сядзібы непадалёк Гродна, уладкаваныя ў нацыянальным стылі, з харчаваннем або без. Цэны крыху меншыя чым у Польшчы. Усё залежыць ад камфорту. У прынцыпе гэта 10 долараў і больш.

На другі дзень кірмашу, у час аднаго з семінараў, Міхаіл Кажура, намеснік начальніка ўпраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама пераконваў да наведання помнікаў Гродзеншчыны, якіх — як пералічваў — у гэтым рэгіёне ёсць каля паўтары тысячы. Адзначаў, намаўляючы да наведання на беларускім баку Аўгустоўскага канала:

— З нашага боку яго рэканструкцыя завяршылася ў 2006 годзе. Тут практычна можна развіваць усе віды турызму. У верасні мінулага года вакол канала пачаў дзейнасць спецыяльны Турыстычна-адпачынковы парк.

Аб магчымасцях для польскага бізнесу, якія дае функцыянаванне гэтага парку, успамінала Таццяна Папянюк — галоўны спецыяліст Свабоднай эканамічнай зоны „Гроднаінвест”. І так, падаткавыя аклады рэзідэнтаў парку зменшаныя агулам на больш за 70 прац., у тым ліку звольнены яны ад падаходнага падатку на пяць гадоў ад даты заяўлення аб прыбытках. Асноўным крытэрыем для рэгістрацыі рэзідэнта з’яўляецца тое, што кошт інвестыцыі не можа быць меншы чым 200 тысяч еўра. Таццяна Папянюк дадала:

— Ёсць магчымасць развіцця на тэрыторыі парку трансгранічных маршрутаў.

У сваю чаргу Сяргей Піскун, начальнік аддзела кампаніі „ЦэнтрКурорт” у Гродне пераконваў да наведання беларускіх санаторыяў:

— Пры нізкіх цэнах прапануем высокія медыцынскія паслугі.

Аб турыстычных магчымасцях, асабліва байдарачнага турызму, якія дае Аўгустоўскі канал, распавядала Агнешка Зызала з польскага турыстычнага прадпрыемства „Шот”:

— Спадзяюся, што неўзабаве і з польскага боку




будуць тут зроблены вялікія інвестыцыі, як гэта сталася ў Беларусі і ў Літве. Патрэбная база, каб мог тут развівацца турызм звязаны з бегавымі лыжамі, пешымі і веласіпеднымі маршрутамі. Пакуль арганізуем у кожную сераду аднадзённы байдарачны паход у Беларусь да Дамброўкі.

Аб польска-беларускім веласіпедным турызме размаўлялі мы ў час кірмашу з Юры Такаюком з Клуба веласіпеднага турызму „Эскапада”:

— Ад двух гадоў супрацоўнічаем з некалькімі арганізацыямі веласіпеднага турызму ў Беларусі, перш за ўсё з брэсцкім клубам „Калабок”. Сарганізавалі мы ўжо разам больш дзесятка супольных веласіпедных паходаў. На пачатку былі гэта рэйды ўздоўж мяжы, ад Аўгустоўскага канала да Брэста. Пасля пачалі мы выбірацца далей. У апошні час найчасцей ездзім праз веласіпедны пагранпераход у Белавежскай пушчы. Наведалі мы м.інш. Блакітныя азёры і Пінскія балоты, дзе найфайней. На Пінскія балоты вяртаемся і сёлета. Летась былі мы там тройчы. Чагосьці такога ніхто з нас раней не бачыў! Былі з намі людзі, якія ўжо наведалі і дэльту Ганга, і басейн ракі Амазонкі, ды казалі, што яны захоплены Пінскімі балотамі, а ж недзе адзінаццаць гадоў таму пабудавалі там дарогі і людзі пачалі мець кантакт са светам.

Польска-беларускія турыстычныя веласіпедныя паходы прапануе таксама Бюро актыўнага турызму „Нэс-Тур”. Ягоны ўласнік Юры Несцярук хваліў:

— Прапануем роварную імпрэзу на пераломе красавіка і мая пад назвай Першы агульнапольскі злёт турыстаў-веласіпедыстаў „Пушча для ровараў — пазнаёмся з краінай зубра”. Будзе гэта адзін байдарачны дзень і пяць веласіпедных, у тым ліку адзін выезд у беларускую частку Белавежскай пушчы, да рэзідэнцыі Дзеда Мароза.

Аб Белавежскай пушчы, гэта значыць аб Нацыянальным парку як рухавіку развіцця турызму яшчэ ў першы дзень кірмашу расказвала ў час семінара Алімпія Пабян з Белавежскай акадэміі разнастайнасцей „Вэймутка”. Паінфармавала яна, што Белавежскую пушчу ў апошнія гады наведвае каля 150 тысяч турыстаў у год, у тым ліку строгі запаведнік — 20-25 тысяч. У асенне-зімовым сезоне лік турыстаў у парку меншае і даходзіць да 2,2-3 тысяч наведвальнікаў.

— У Белавежскім парку г.зв. турыстычная асенне-зімовая насычанасць гэта трагедыя. Чакаем стварэння ў гэты перыяд маршрутаў для бегавых лыжаў.

На стэндах прыкоўвалі ўвагу не толькі прапановы строга турыстычныя, значыць, самі месцы, у якія можна выбрацца, але заахвочвала таксама да прыезду каштаванне мясцовых страў. Асабліва імпазантна рэкамендаваліся мужчыны ў гузарскіх апранахах, якія рэкламавалі Гістарычны парк „Трылогія” ў Мельніку, створаны на базе рэквізітаў з фільмаў паводле раманаў Генрыка Сянкевіча. У сваю чаргу Анна Стульгіс, дырэктарка Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы, заахвочвала:

— Нашы агратурыстычныя кватэры прапануюць процьму сюрпрызаў. У кожнай нашай гаспадыні можна наесціся, сарганізаваць вогнішча ці грыль.

Спадарожнічаючая ёй ля стэнда Эвеліна Клімюк, кіраўнік Асяродка экалагічнай адукацыі ў Семяноўцы, распавядала:

— Працуем з малымі дзецьмі, школьнай моладдзю, але і студэнтамі ды дарослымі. Ад гэтага года гэта таксама турыстычны цэнтр, куды можна прыехаць і адпачыць у цішы і спакоі, у атачэнні вадасховішча і лесу.

# Гебраістка, якая піша па-беларуску

*Нейкая метафізічная сіла зладзіла мне сустрэчу з Оляй Бяляўскай, лаўрэаткай XVII Літаратурнага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют». Мы сталі разам жыць у адным студэнцкім інтэрнаце. Оля — студэнтка пятага курса гебраістыкі Варшаўскага ўніверсітэта.*

***Наталля Кандрацюк-Свярубская:*** *— Адкуль у студэнткі гебраістыкі зацікаўленне беларускім літаратурным словам?*

***Аляксандра Бяляўская:*** — Скажу шчыра, мой удзел у конкурсе выпадковы. Аднойчы я сустрэла сяброўку якая сказала, што рыхтуе тэкст на конкурс „Нівы”. Гэта заахвоціла мяне таксама паспрабаваць сваіх сіл у конкурсе. Я адразу прыдумала тэму і ў тры вечары ўзнік твор пра ўцекача з Кыргыстана.

Н.К.-С.: — *Чаму з Кыргыстана?*

А. Б.: — Кыргыстан атрымаўся тут выпадкова...

Н.К.-С.: — *А Тваё веданне беларускай мовы?*

А. Б.: — Я сама родам з Нараўкі.

Н.К.-С.: — *Як нараджаюцца Твае творы?*

А. Б.: — Пісанне прыходзіць да мяне зрэдку. Штосьці незвычайнае мусіць на мяне паўплываць, каб сесці і напісаць, прыдумаць тэму.

Н.К.-С.: — *Памятаеш свой першы літаратурны твор?*

А. Б.: — У дзяцінстве я вельмі марыла стаць пісьменніцай. У мяне былі вялікія планы. Я ведала што і для каго канкрэтна буду пісаць. І вось тады мне хацелася быць прадаўжальніцай кніжак Крыстыны Сясіцкай, якой я на той момант захаплялася. На жаль, мая літаратурная „кар'ера” спынілася на дзвюх старонках.

Н.К.-С.: — *Падазраю, аднак, што далей пішаш у стол, для сябе...*

А. Б.: — Так, часам пішу...

Н.К.-С.: — *Можа поспех у конкурсе беларускай паэзіі і прозы накліча тыя літаратурныя мары і планы з часоў дзяцінства?*

А. Б.: — Не думаю пра сябе як пра сур'ёзную пісьменніцу! Магчымасць нешта напісаць гэта для мяне вялікае задавальненне і прыемнасць. Калі ідзе пра жанр, на сённяшні дзень найбольш цікавіць мяне літаратурны рэпартаж.

Н. К.-С.: — *Ты, здаецца, першая студэнтка гебраістыкі на Гайнаўшчыне, якая піша па-беларуску. Як людзі ў Тваёй роднай Нараўцы ўспрынялі такі выбар?*

А. Б.: — Мая сям'я мае даволі аптымістычны падыход да майго выбару. Яны заўсёды мне памагалі і заахвочвалі штудзіраваць. Інакш было са знаёмымі і суседзямі. Усе былі здзіўленыя, што паступаю на такі рэдкі і непрактычны напрамак. Многа асоб бачыла ў маім выбары працяг дарогі маёй хроснай маці Касі Бяляўскай, якая, між іншым, упарадкавала габрэйскія магілкі ў Нараўцы.



Н. К.-С.: — *Ці Твае аднакурснікі ведаюць, што Ты валодаеш беларускай мовай?*

А. Б.: — Так, ведаюць, я сама, дарэчы, пахвалілася перад сябрамі і выкладчыкамі веданнем беларускай мовы.

Н. К.-С.: — *Сучасныя студэнты ахвотна здымаюць прыватныя кватэры і жывуць здалёк ад студэнцкага жыцця. Ты выбрала жыццё ў студэнцкім інтэрнаце. Як адчуваш сябе ў акадэміку?*

А. Б.: — Пяты год жыву ў акадэміку і, мушу сказаць, гэта стамляе. Разумею, што ёсць людзі, якія любяць імпрэзы ды хочуць пазнаваць усё новых людзей... Для мяне, аднак, гэтае месца асацыюецца з калгасам.

Н.К.-С.: — *Многія маладыя людзі вымушаны зрабіць выбар: ці кіравацца сваім унутраным голасам і сэрцам і рабіць у жыцці тое, што любіш, ці проста кіравацца тым, што падказвае здаровы сэнс і рынак працы...*

А. Б.: — Я ўпэўнена, што кожны павінен ісці за голасам сэрца. Мая асоба тут найлепшым прыкладам. Калі я паступала на гебраістыку, многія крытыкавалі мой выбар, гаварылі, што пасля такой спецыяльнасці не будзе шанцаў на працу. Аднак цяпер я ўпэўнена, што гебраістыка была для мяне найлепшым з магчымых выбараў.

Н. К.-С.: — *А што, канкрэтна, будзеш рабіць пасля заканчэння вучобы?*

А. Б.: — Хачу навучаць гебрайскай мове. Цікавіць мяне таксама праца ў музеях, у галіне культуры. І думаю, каб вярнуцца жыць на Беласточчыну.

Н. К.-С.: — *А куды канкрэтна?*

А. Б.: — Не ведаю, можа ў Беласток.

Н. К.-С.: — *Дзякую за размову і яшчэ раз віншую з поспехам у літаратурным конкурсе.*




З'яўленне новых друкаваных СМІ грамадска-палітычнай накіраванасці, калі іх заснавальнікам не з'яўляюцца органы ўлады, зараз у Беларусі немагчымае. На рэгіянальным узроўні ўладныя структуры зробяць усё, каб новая газета ці часопіс, незалежныя па змесце, ніколі не пабачылі свету. Таму існаванне такой прэсы ўсё больш становіцца нечым незвычайным. У такіх варунках нешта казаць пра канкурэнцыю сярод грамадска-палітычных СМІ практычна немагчыма, бо многія патэнцыйныя ўдзельнікі беларускага медыярынка былі забітыя яшчэ ў зародышы.

Але забіць свабоднае слова лукашэнкаўскай уладзе немагчыма, як немагчыма забіць паветра ці ваду. Канешне, можна прыдушыць аднаго ці двух чалавек, можна зрабіць штучны недахоп вады, але той, хто прагне, знойдзе для сябе магчымасці нармальна дыхаць і насычацца жывой вадой, а значыць знойдзе спосаб пачуць свабоднае слова. Адной з такіх крыніц на рэгіянальным беларускім узроўні з'яўляецца сайт у інтэрнэце, што мае назву „Наш Магілёў”.

Месціцца віртуальнае незалежнае СМІ па адрасе **http://gazetanm.eu** і выглядае даволі проста, але ў той жа час дастаткова прывабна, каб прыцягнуць увагу інтэрнэт-карыстальніка. У нечым тут дапамагае колеравая гама, якую выбралі распрацоўшчыкі сайта — на ім пераважаюць белы і чырвоны колеры.

Выйсці да ўсіх рубрык знаходзяцца толькі ўверсе выяўлення. Дарэчы, іх не так многа — усяго дзевяць, пры гэтым не ўсе насычаны інфармацыяй.

Рубрыка, якая прэзентуе „Наш Магілёў” знаходзіцца ў канцы цэлага пераліку. „Рэдакцыя газеты „Наш Магілёў” распачала сваю працу ў лістападзе 2006 года. Першапачаткова яна складалася з актывістаў розных грамадскіх аб'яднанняў горада. Пазней, гэта ўжо былі незалежныя журналісты”, — прэзентуюць выданне, якое задумвалася як друкаванае, яго стваральнікі. Згодна пададзенай інфармацыі, свет пабачылі толькі 62 нумары газеты, якія па сутнасці, былі так званым „баявым лістком”, што нідзе не зарэгістраваны і фактычна належаў незалежнаму прафсаюзу.

З 2007 года выданне пачынае існаваць толькі ў інтэрнэце. Больш-менш актыўна такое існаванне працягвалася да 2009 года. „Інфармацыя на старонках сайта і газет уплывала на вырашэнне тых ці іншых лакальных праблемаў праз іх агучванне і распаўсюд газеты ў праблемных месцах. За дзейнасцю рэдакцыі пільна сачылі чыноўнікі і славыя ведамствы. У канцы 2011 года сайт газеты „Наш Магілёў” аднавіў сваю працу”, — распавядаецца на старонцы „Пра нас” і дадаецца, што ў хуткім часе зноў з'явіцца і папяровая версія выдання.

Што ж тычыцца сённяшняга інфармацыйнага напаўнення сайта, то яно абнаўляецца даволі аператыўна і змяшчае добрую колькасць свежых і актуальных артыкулаў. Найбольш важна, што аўтары сайта, пра якіх мы не даведаемся нават на старонцы „Кантакт”, не замахваюцца на агульнабеларускія ці сусветныя навіны, што часцяком адбываецца з сайтамі рэгіянальнага ўзроўню, а стараюцца змясціць весткі пра свой рэгіён.

Тое ж самае можна сказаць і пра ранейшы друкаваны варыянт выдання. Каб у тым упэўніцца, трэба зазірнуць у рубрыку „Архіў нумароў”, дзе змешчаны ўсе нумары „Нашага Магілёва” ў фармаце pdf.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Адрасы БНР

25 Сакавіка — надзвычай вылучная дата і асаблівая беларуская каштоўнасць. У 1918 годзе амаль здзейснілася мара нашчадкаў крывічоў-ліцвінаў — была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Цынікі ад гісторыі могуць іранізаваць да бясконцасці, што гэта была няўдалая спроба стварэння сваёй дзяржавы, але ж мы ведаем, што каб не была дэкларавана БНР, не было б сёння і Рэспублікі Беларусь. Цягам сямідзесяці гадоў савецкай улады праўда пра БНР замоўчвалася і толькі з прыходам перабудовы беларусы атрымалі шанц вярнуць сабе знішчаную гісторыю, адрадзіць памяць пра заснавальнікаў нашай дзяржавы. Так што мы ведаем, хто змагаўся за ўсталяванне незалежнасці і хто гвалтоўна перапыніў трывалае ўсталяванне і развіццё Беларускай Народнай Рэспублікі.

Як вядома, БНР была абвешчана ў Мінску, менавіта там асноўныя адрасы падзей кароткага, але надзвычай насычанага, прамежку часу. Найбольш дзіўным падаецца факт, што бальшыня тых будынкаў ацалела, нягледзячы на знішчальныя фашыстоўскія бамбардзіроўкі ў другую сусветную і савецкі вандалізм ужо пасля вайны. У сённяшнім тэатры Янкі Купалы адбываўся Першы ўсебеларускі кангрэс. Уласна ж Трэцяя ўстаўная грамата БНР была абвешчана ў доме, што стаіць па вуліцы Валадарскага. Паводле сумнага сімвалізму на гэтай вуліцы размешчана турма, у якую ўжо ў суверэннай Беларусі „праваахоўнікі” часта валакуць тых, хто выходзіць на вуліцы Мінска пад бел-чырвона-белымі сцягамі на розныя грамадскія акцыі, адзначыць той жа Дзень Волі.

Захаваўся ў сталіцы і так званы Юбілейны дом жоўтага колеру, некалі ў ім размяшчаўся царкоўна-археалагічны музей. Менавіта тут працаваў сакратарыят БНР, месціліся іншыя яе структуры. Жыхары Мінска сёння часам называюць гэты будынак „дом на чакалядках”, бо яго выява была размешчана на цукерках.

У Гародні з дзейнасцю Рады БНР, якая была змушана пераехаць у горад над Нёманам у студзені 1918 года, звязаныя некалькі будынкаў. Найбольш вядомы з іх — цяперашні корпус медыцынскага ўніверсітэта па вуліцы Горкага, некалі гэтае месца прымыкала да старажытнага віленскага тракту. Тут у пачатку 1919 года была беларуская вайсковая камендатура, а пазней працавала беларуская гімназія. У адну з нядаўніх вёснаў гарадзенскай грамадскасцю была спроба ўсталявання на сцяне гэтага будынка памятнай самаробнай шыльды, якая, аднак, была здзёртая і знішчана ўладай. У апошні час сам архітэктурны помнік заznаў рэстаўрацыю.

Айцоў БНР у Беларусі сёння ўшаноўваць амаль няма дзе. Месцы іх нараджэння альбо зніклі, альбо не азначаны. Частка асоб, прыкладам, Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў, Кастусь Езавітаў, Вацлаў Ластоўскі, Раман Скірмунт згінулі ці былі расстраляныя ў савецкіх канцлагерах і засценках, частка — памерла на чужой зямлі ў эміграцыі. Цэлы шэраг дзеячаў знайшлі свой апошні прытулак у сяброўскай для беларусаў Чэхіі. Так на знакамітых Альшанскіх могілках пахаваны Васіль Захарка і Пётра Крэчаўскі. На іх даваўлося пабываць колькі гадоў таму ў час з'езду беларусаў з усяго свету. Гэтыя магілкі, нягледзячы на іх сумны статус, маюць нейкую аптымістычную аўру.

БНР — гэта светлы ідэал для многіх выдатных беларусаў. БНР — гэта кароткая, але яркая знічка на шляху нашай вялікай і трагічнай гісторыі. БНР — гэта мара некалькіх пакаленняў патрыётаў. Мара, якая пакуль не мае сапраўднага адрасу і, на жаль, „прапіскі” ў душах бальшыні насельнікаў нашай краіны.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Каб адвечнае жыло вечна

Дастойна і ўрачыста адсвяткавалі Міжнародны дзень жанчын — 8 Сакавіка ў святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны.

У гэты святочны дзень мужчынская група фальконрага калектыву „Цаглінкі”, супольна з прыхільнікамі гурту падрыхтавалі вечарынку, на якую запрасілі жанчын з калектыву і працаўніц Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы. Віцэ-староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка, мясцовы радны Юрый Равінскі і старшыня Прадпрыемства будаўнічай керамікі Аляксандр Бандарук павіншавалі жанчын са святам. Былі таксама зачытаны віншаванні ад галоўнага рэдактара „Нівы” Яўгена Вапы, які напісаў м.інш.: „Жадаем Вам моцнага здароўя, сямейнага шчасця і шматлікіх творчых поспехаў. Няхай Вашыя песні далей расслаўляюць нашу малую Айчыну — Беласточчыну”. Пра „Цаглінак” памятала таксама Радыё Рацыя, якое перадало віншаванні ў канцэрце пажаданняў.

— Жанчыны з калектыву „Цаглінкі” — гэта свайго роду сапраўдныя паслы міру, узаемаразумення і міласэрнасці, — сказаў Андрэй Скепка.

Музычны кіраўнік калектыву Мікалай Мяжэнны ў сваю чаргу зачытаў рыфмаваны віншаванні:

„Спяваюць Вам мужчыны серэнады,
Як было гэта сто гадоў назад.
Для жанчын няма лепшае падзякі,
Чым голас цёплы і ясны наш пагляд.
Вы нам патрэбны як сэрцу натхненне,
Бо мы без Вас як месячык без зор.
Якое Вы цудоўнае з'яўленне,
І кажам Вам аб гэтым мы ўсур'ёз.
Мы Вас заўсёды слухаць рады,
Каб Вы спявалі зноў і зноў.
Заўсёды добрым хай настрой Ваш будзе,
А ў сэрцы хай жыве надзея, вера і любоў”.

Чарговым выступоўцам быў ніжэйпадпісаны, які звярнуўся да прысутных з такімі словамі:

„Без Вас не маем смаку мы ў жыцці,
Яно здаецца аднастайна шэрым.
І прэч не можам ад Вас пайсці,
Вы нам даеце сілы ў сябе верыць”.

У сваім выступленні кіраўнічка калектыву „Цаглінкі” Галена Барташук сказала: „Нашы мужчыны — добразычлівыя, таленавітыя людзі. Таленавітыя ва ўсім. Адным словам, нашы мужчыны з калектыву „Цаглінкі” — наш гонар”.

У гэты святочны дзень жанчыны атрымалі жывыя кветкі і прыгожыя сувеніры. Сустрэча праходзіла ў сардэчнай сямейнай атмасферы, а яе ўдзельнікі доўга абмяркоўвалі планы і задачы на будучыню.

**Віктар БУРА**

# БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ Ў БЕЛАСТОКУ ЗАПРАШАЕ

Не прапусціце магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю ў нас.

**Беларуская філалогія**
**— адкрыты шлях у свет.**

Адукацыя на гэтым напрамку прызначана для асоб, якія хацелі б на вышэйшым узроўні вывучыць беларускую мову, літаратуру, грунтоўна пазнаёміцца з культурай і гісторыяй гэтага моўнага абшару. Прымаюцца кандыдаты, якія ведаюць беларускую мову, а таксама тыя, хто яе не вывучаў. Праграмай прадугледжана таксама вывучэнне яшчэ дзвюх моў — англійскай і рускай і поўнае авалоданне камп'ютэрнай тэхнікай.

Ёсць магчымасць абраць завочную форму навучання.

Выпускніка беларускай філалогіі чакае найперш беларускае асяроддзе ў Польшчы: школьніцтва, радыёвяшчанне, тэлебачанне, выдавецтвы, няўрадавыя арганізацыі. Патрабуюцца спецыялісты з веданнем беларускай мовы, культуры, беларускіх рэаліяў для міждзяржаўнага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю (камерцыя, культура, палітыка, самаўрадавая дзейнасць).

Кандыдаты маюць да выбару спецыяльнасці:

**— беларуская філалогія**

**— беларуская філалогія з англійскай мовай**

**— беларуская філалогія і ўсходняе славяназнаўства**

Усе праблемныя пытанні ў справе рэкрутацыі на беларускую філалогію можна выразыць па тэлефоне: **510-576-280**

**Наш адрас:** Instytut Filologii Wschodniosłowiańskiej, 15-420 Białystok,Ul. Plac Uniwersytecki ,Tel. 85—745—74—50

# АБ'ЯВЫ

**Лабараторыя гісторыі і культуры „Бельскі гостінэць” пры Музеі Малой айчыны ў Студзіводах**
запрашае
на тэматычную сустрэчу:
**24 сакавіка (субота) гадз. 18:00 —**
Мяшчанскі дом Музея Малой айчыны ў Студзіводах, Бельск-Падляшскі, вул. Саснова, 17.

**Людзі з Падляшша — творцы незалежнай Беларусі ў пачатку XX стагоддзя**
**Іван Краскоўскі з Дубіч-Царкоўных і Нестар Перавой з Кнаразоў**

Вядучыя: Славамір Іванюк (Дзяржаўны архіў у Беластоку) і Дарафей Фіёнік

## Конкурс

Гмінны асяродак анімацыі культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве арганізуе конкурс пад лозунгам „**Наша гняздо**”, мэтай якога з'яўляецца запіс легенд, успамінаў, сямейнай хронікі, мінулага мясцовасці, прадпрыемства, установы, школы, парафіі, помніка даўніны, гістарычнага аб'екта, парку, некраполіі і т.п. Кокурсныя працы трэба дасылаць да 30 красавіка 2012 года на адрас: GOAKiR, ul. Szkolna 2, 16-113 Szudziałowo. Больш падрабязная інфармацыя на сайце www.szudzialowo.e-kultura.pl. **(ав)**

**Беларускае Культурнае Таварыства „Хатка”запрашае на 94 ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі**

**У праграме:**

1. Складанне кветак пад каменем у гонар Янкі Купалы, гадз. 14⁰⁰, 24.03.2012 г., Гданьск-Аліва, вул. Я. Купалы

2. Прэзентацыі кніг „Увесь свет Мацея Канапацкага” і „Лука Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі”, гадз. 15⁰⁰, 24.03.2012 г., Сопат, вул. 3 Мая, 71 (сядзіба БКТ „Хатка”)

3. Складанне кветак на магілах Серафіны і Лукаша Дзекуць-Малеяў і Козьмы Чурылы, гадз. 13⁰⁰, 25.03.2012 г., гарнізонны могільнік у Гданьску (за вакзалам ПКС, вул. ген. Дамброўскага, 2)

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — іспанскую пагаворку.

1. майстэрства тэатральнага танца = 6 _ 10 _ 1 _ 7 _ 20 _;
2. дэкаратыўная кустовая расліна з блакітна-ліловымі або белымі пахучымі кветкамі = 3 _ 19 _ 8 _;
3. жаночыя грудзі = 26 _ 25 _ 14 _ 15 _;
4. уліваецца ў Дунай у Камарне = 16 _ 17 _ 18 _;
5. вялікая ўсходнесібірская рака = 24 _ 23 _ 22 _ 21 _;
6. вялікі кот у... гараскопе = 11 _ 12 _ 28 _;
7. пышнае эстраднае відовішча = 9 _ 4 _ 5 _;
8. Канстанцін, расійскі жывапісец (1875-1958) = 2 _ 27 _ 13 _.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | | | | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | | | | 22 | 23 |
| | | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Адмычка, Тамбоў, сталь, даярка, Лагойск, мыш, Барань, шынель, баск, Ціса, Влтава.

Рашэнне: **Чым большая галава, тым больш баліць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 25.03 — 31.03

**(22.03. — 20.04.)** Бурлівы тыдзень: мора эмоцый (не заўжды пазітыўных). Мо трэба будзе заплаціць старыя рахункі. У аўторак будзь асцярожны з электрапрыборамі. У другой палове тыдня падарожжа прынясе пачуццё ўдачы, можаш аформіць моцныя адносіны ў бізнесе.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш шукаць новых мэт. Вельмі ўдадуцца занякі звязаныя з самаадукацыяй; дапамога сяброў і знаёмых. У аўторак можаш лёгка дабіцца здзяйснення планаў. Серада добрая для любоўных прызнанняў, шлюбу, хатніх мерапрыемстваў. У пятніцу асцерагайся сабак і дзікіх жывёл.

**(22.05. — 22.06.)** Адмоўся ад цяжкіх мерапрыемстваў і займіся незавершанымі справамі. Не дайся спакусе прывабных прапаноў, не ўкладвай грошай у сумніўныя задумы. У чацвер, галасуючы на дарозе, не стой заблізка маставой. У пятніцу будзь цішэй вады, ніжэй травы, калі на працы скарочваюць штаты.

**(23.06. — 23.07.)** Удалы тыдзень, поўны пазітыўных эмоцый, новых знаёмстваў, карысных сустрэч з добрымі людзьмі. Праявіцца ў табе ўменне прыцягнуць усё, што захочаш. Усе твае мары могуць здзейсніцца! У панядзелак паплаці ўсе рахункі. Пятніца — паваротны дзень, які можа шмат змяніць у тваім жыцці. У суботу пакажыся ў шматлюдным месцы.

**(24.07. — 23.08.)** Чакае цябе пару стрэсуючых дзён; абмяжуй кававанне і курэнне! Пакуль пакінь думку аб змене працы. У панядзелак і аўторак будзеш мець дачыненне з вялікімі ўстановамі. Калі ў сераду паломіцца табе ножніцы, раскрыеш абманства! У суботу адкрый усе вокны і дзверы для новых падзей — абавязкова прыйдуць!

**(24.08. — 23.09.)** Паправіцца настрой. Заваль тэмп працы, займіся занядбанымі пачуццямі. Справы звязаныя з тваёй асобай пераанаізуй, абдумай шляхі і прымі адзінае рашэнне — зменіш ад кораня складваючуюся сітуацыю. У аўторак магчымыя нечаканыя страты. У сераду не давай хутка сваёй згоды. У ноч з чацвярга на пятніцу спі ў сваёй пасцелі. У суботу ў тваім жыцці пачнуцца змены, а „пахаваныя” пачуцці адродзяцца.

**(24.09. — 23.10.)** Тыдзень багаты прыгодамі. Атрымаеш адказ на важнае пытанне, лёгка паўплываеш на іншых. Твой шырокі і здаровы розум дазволіць трапна падзейнічаць і вырашыць многія пытанні. Пазбудзешся таго, што цябе скоўвала. У чацвер і пятніцу будзь асцярожны пры грашах.

**(24.10. — 22.11.)** Прытармазі! Можаш увайсці ў канфлікт з кімсьці, ад каго залежыць твая будучыня! У панядзелак пераможаш сумненні, атрымаеш і апрацуеш новыя даныя. У аўторак добра купіш адзенне. У сераду ва ўсім будзеш ехаць у аб'езд. Пад канец тыдня пажнеш мілыя плады ад сваёй упартасці.

**(23.11. — 22.12.)** Паправіцца настрой і здароўе. Найлепшы твой дарадчык — інтуіцыя і ўява. Гавары ціншэй — навокал надта цікаўных вушэй! Свет перад табою адкрыецца, будзеш больш актыўны, ахвочы да падарожжаў, з радасцю возьмешся за новыя выклікі. У пятніцу варта праводзіць здзелкі з нерухомасцю.

**(23.12. — 20.01.)** Добры час для кахання і яго пошукаў. Магчымае прымірэнне. У панядзелак добры час для тых хто займаецца інтэлектуальнай справай. У сераду абмінай азарт. Пад вечар у чацвер можаш спаткаць чалавека сваіх мараў. У пятніцу бяры пазыку ці кладзі грошы на працэнт. У суботу лепш не ідзі да цырульніка.

**(21.01. — 19.02.)** Завершыш старое. Кожная справа аформіцца, кожная перашкода адоліцца. Прызнач як найбольш часу сям'і. Не пазычай цяпер нікому грошай. У панядзелак трымай язык за зубамі. Перамен чакай у чацвер. Не падымай цяжкага ў пятніцу.

**(20.02. — 21.03.)** Паніжэнне формы. Затое можаш купіць сабе штосьці файнае (але не ў пятніцу каштоўны камень). 27.03. штосьці не пойдзе па планах, ды не нервуйся: вер у сваё шчасце, а выкрунешся з кожнай кабалы. У панядзелак магчымы кантакт з органамі ўлады. У суботу не прабі сабе нагі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# На Адэльшчыне

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**У Мінкоўцах аўтобус пэкаэсу спыняецца на прыпынку, што яшчэ на жвіроўцы, якая перпендыкулярна падыходзіць да брукаванай вясковай вуліцы. Меркаваў я, што там канцавы прыпынак, што там аўтобус заварочваецца, каб неўзабаве ад'ехаць назад у Саколку. Аўтобус сапраўды завярнуўся, а я пайшоў у напрамку паўднёвага канца вёскі. Мінкоўцы з'яўляюцца даволі доўгай вёскай, пасярэдзіне якой пасяленчы прабел. І менавіта там, дзе хат пры вуліцы няма, вуліца тая абкапана свежымі равамі; відаць, там на восені равы абнавілі з мэтай пазнейшага, пасля зімы, больш грунтоўнага рамонту вулічнага насцілу. На тым паўднёвым канцы Мінкоўцаў красуецца аўтобусны прыпынак з акуратным раскладам ад'ездаў. Праходзячая пажылая жанчына патлумачыла мне, што аўтобус на той прыпынак перастаў ездзіць два дні раней з-за дрэннага насцілу. І панаракала, што гміна не дакончыла рамонту вуліцы...**


Вятрак на могілках у Мінкоўцах

З Мінкоўцаў у паўднёвым напрамку выходзяць дзве жвіроўкі — адна ў напрамку Уснара, другая ў Бабікі. Амаль насупраць згаданага прыпынку футбольнае поле, акуратна выкашанае, аднак адзін з яго вуглоў не менш акуратна разрыхлены паўхамі. Больш-менш пасярэдзіне вёскі запушчаны драўляны будынак, які з выгляду дапускае дадумвацца, што там некалі была школа. Акурат праязджаў на веласіпедзе пажылы мужчына і я пацікавіўся ў яго сваёй здагадкай. Так, была там калісь школа, сямігодка, у якой вучылася сто дваццаць вучняў. Калі была яна пабудавана, мой суразмоўца не быў упэўнены. Цяпер будынак прыватны, сцяна ад панадворка ўжо крыху раскідана... А пра пасляваенныя гады сказаў ён мне, што спачатку Мінкоўцы апынуліся ў Савецкім Саюзе, а ў маі 1948 года вярнуліся ў Польшчу.

— Мяне яшчэ ахрысцілі ў касцёле ў Адэльску, а паўгода пазней тут ужо настала Польшча, — паінфармаваў мяне.

У міжваенны час Адэльск быў у межах Сакольскага павета, а Адэльская гміна распасціралася на захад ад мястэчка. Дзяржаўная мяжа, якая пасля некаторых ваганняў там усталявалася, аддзяліла Адэльск ад рэшты гміны. Дарэчы, сядзібай гмінных улад былі Бабікі, а сам Адэльск быў далучаны да „сваёй" гміны толькі ў 1934 годзе, калі страціў гарадское права. Гэта гістарычная мясцовасць, якая нават у свой час дала назву часткі колішняй Сакольскай пушчы. Ардынацыя з 1639 года так вызначала яе межы: „Puscza Odelska zaczyna się na wschód słońca od rospuścia Odelskiego y gościńca Kryńskiego, uroczyszczem Suchim po Sukowicz most, z obupoł rzeki Sokołdy, bokiem Migowicz lasu, do wsi Studzianki y kopcow pusczy pana Włoska, do Czarney rzeki i puscze Knyszyńskiey; ku zachodowi lewym bokiem leży od puscze Kryńskiey, a prawym bokiem od gościńca Knyszyńskiego aż do mostu Straży rzeki y wsi Kamionki a dubrowy Białey leśnictwa Molawickiego, alias Sokolskiego". Значыць, Адэльская пушча цягнулася аж пад Васількаў!

Новая дзяржаўная мяжа аддзяліла таксама вернікаў Адэльскай парафіі, што, так як мой размоўца, асталіся ў Польшчы, ад адэльскага касцёла. У 1951 годзе яны ўзвялі ў Мінкоўцах новы касцёл; самастойная парафія была тут заснавана ў 1975 годзе. Трэба тут адзначыць, што касцёл займае вельмі важнае месца ў побыце мясцовага насельніцтва — калі дарога з Зубрыцы-Вялікай у Мінкоўцы пакрыта калдобістым жвіровым насцілам, то ўжо дарожка ад гэтай жвіроўкі ў мінкоўскі касцёл вымашчана польбрукам роўненька як стол; шлях у храм гэта не іголнае вуха... Ды не толькі з Евангеллем можна асацыяваць асаблівасці мясцовага побыту, таксама першы раздзел Пісання — Кніга Быцця, — дзе згадваецца пра выгнанне першых людзей з Раю і наканаванае ім здабыванне хлеба нялёгкай працай. Бо ж дзеля гэтага здабывання хлеба і высеклі яны ўсю ўсходнюю частку сваёй


Вугал хаты ў Мінкоўцах

Адэльскай пушчы. Згаданая ардынацыя пералічвае васемнаццаць нетраў гэтай пушчы і коратка іх ацэньвае: „Z tych ostempow ośmnastu całych tylko 6, a w inszych wszystkich ostempach dębinę i lipinę w tych lecіech na wanczos, klepkę i bale przez pana Kryszpina robiono i nie mało drzewa wypuszczonego. Także osocznicy i pan podleśniczy udawał, że na potrzebę dworu Sokolskiego, na dwór, do Kuźnice na cerkiew panu Micucie y inszey za listy k. imci dawano". А калі не стала лесу, то трэба было нешта на ягоным месцы садзіць або сеяць. Напрыклад, сеяць збожжа і пасля перамолваць яго на хлебную муку, у млынах...

Станіслаў Пачобут-Адляніцкі ў сваім турдаведніку пра сучасную Гарадзеншчыну так піша пра адэльскія ветракі: „Wiatraki, z dziada — pradziada szumiały na pogórkach odelskich, ruch ich skrzydeł przyciągał wzrok każdego kto spieszył do Odelska, czy to do kościoła, czy to na rynek, czy do kramów. Smukłe, wysokie, czasem kilka na raz, machały swoimi skrzydłami zapraszając lud wierny na modlitwę poranną i wieczorną i przypominając, że próżne życie to martwe skrzydło wiatrowego młyna, a czas w tym przypadku — zgubiony bezpowrotnie. Wiatraki były w Odelsku szczególną dumą i jednocześnie przedmiotem rywalizacji. W najlepszych czasach na wzniesieniach machało skrzydłami aż 11 młynów wiatrowych. Zdawało się, że poderwą miasteczko pod obłoki. Potem, aby łapać wiatr w skrzydła, zapewniając tym samym lepszy byt rodzinie, jeździło się do Ameryki na zarobki. A za czasów polskich życie nie było łatwe. Gospodarstwa rolne, z braku większych gruntów, z trudem wyżywiały rodziny. Ale wiedziano jak można zarobić. Najpierw jechało się za granicę, a potem stawiało wiatraki. (...) Odelsk w dawnych czasach był więc regionalnym mistrzem w ujarzmianiu wiatru. Dzisiaj nawet fotografie nie pozostały, tylko nostalgia, a i ona ustępuje bo pokolenie, które nasłuchiwało szumu wiatru, odeszło jak odeszły i wiatraki".

Як жа гэты апошні сказ пасуе да Мінкоўцаў! Бо ж на тамашніх могілках узвышаецца бяскрылы ўжо вятрак. А могілкі апынуліся пад ветраком у выніку перадачы ўласнікамі ўчастка, на якім той вятрак стаіць, таго ўчастка сваёй новай парафіі. Ветракі ў польскай частцы гістарычнай Адэльшчыны яшчэ крыху захаваліся, хаця і яны хіляцца да зямлі. У Малявічах вятрак падгарэў у мінулым годзе. У Хмялеўшчыне і Войнаўцах уласнікі не ў змозе абнавіць іх, толькі ў Шчасновічах вятрак адрамантаваны. У Войнаўцах, як паінфармаваў мяне солтыс, спадар Стасевіч, быў яшчэ адзін вятрак, але нядаўна купіў яго Беластоцкі музей вёскі і забраў пад Беласток. А шкада, сказаў ён мне, бо па пралягаючым на ўсходзе Сакольскага павету Татарскім шляху ездзіць шмат веласіпедыстаў і дзеля іх можна было той вятрак адрамантаваць і пакінуць на месцы. Цікавае, аднак, тое, што хаця ў Войнаўцах астаўся толькі адзін вятрак, даведнікі ўсё яшчэ згадваюць пра два. Не дзіва было б, калі б гэта былі нейкія вонкавыя інфарматары, але пра ветракі „інфармуе" і партал Шудзялаўскай гміны; відаць, найцямней пад ліхтаром...


Вятрак за Войнаўцамі

Паміж Войнаўцамі і Адэльскам да вайны была вёска Ісаакава Калонія, населеная жыдамі, у якой таксама стаяў вятрак. Пасля вайны вёска апынулася ў памежнай зоне і была знесена саветамі. Быў астаўся ад яе толькі вятрак, але і той паваліўся тры ці чатыры гады таму; быў гэта, паводле маіх размоўцаў, апошні вятрак на тэрыторыі Беларусі...

У Войнаўцах маімі суразмоўцамі сталі таксама пагранічнікі з шудзялаўскай заставы. Спытаў я іх, ці з узгорка, што зараз за вёскай, відаць Адэльск, які ад Войнаўцаў адлеглы ўсяго на тры з паловай кіламетра. Адказалі яны, што ў дзень не відаць, але ноччу відаць лёгкае зарыва ад асвятлення. Да таго ж з беларускага боку зараз за граніцай вырас лес. На маю заўвагу, што ў нас, у іншых гмінах, таксама памежжа зарастае лесам, адказалі яны рэфлексіўна, што і ў іх зарасце... А менавіта адсутнасць лесу на высокім водападзеле басейнаў Віслы і Нёмана, тут на Адэльшчыне, стварала спрыяльныя ўмовы для ветравога разгулу, для ветракоў.

*(працяг будзе)*

ISSN 0546-1960